№ 26 (767) 11 ліпеня 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я  Б Е Л А Р У С К А Я  Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдне

## Топ найпрыгажэйшых навабудаў Мінска

«Мінск-Арэна», катэдж у Сцяпянцы, рэстаран «Джэймс»... Старонка 11.



## Падымі мяне па-над зямлёю

Колькі каштуе палятаць над Беларуссю? Старонка 15.



# Медзведзіроўшчыкі над Мінскам

Як **шведам удалося** праляцець паўкраіны і дзеля чаго? **Старонкі 3-4.**




**Гэтага мядзведзіка знайшоў і перадаў у Рэдакцыю жыхар мінскага мікрараёна Сухарава. На ім цыдулка па-англійску «Вы не закрыеце мне рот».**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Арлоў і Герасімовіч выдалі «Вялікае Княства»

Кошт кнігі складае **350 тысяч** рублёў.

Памятаеце кнігу «Краіна Беларусь»? Такі вялізны фаліянт з цудоўнай паліграфіяй, з выявамі соцень артэфактаў? Друкаваная ў Славаччыне, яна хутка прадалася. Дык вось, маем працяг.

Тыя самыя аўтары, пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч, выдалі том «Вялікае Княства Літоўскае» — 400 старонак гісторыі і 2000 ілюстрацый, некаторыя з якіх беларускія чытачы ніколі не бачылі. Шыкоўна выдадзенае «Вялікае княства» — сапраўдны даведнік пра часы ВКЛ.

Кніга пачынаецца матэрыяламі пра суіснаванне балтаў і славянаў на беларускіх землях, а заканчваецца сёняшнім днём беларусаў у Літве.

«Чытача чакае сустрэча з выдатнымі гістарычнымі асобамі: палітыкамі, военачальнікамі, асветнікамі, — пішуць аўтары. — На аснове гістарычных фактаў даводзіцца, што найменні «Літва» і «ліцвіны» на працягу некалькіх стагоддзяў былі назовамі Беларусі і беларусаў».

Арлоў і Герасімовіч абяцаюць, што кніга зможа зламаць пэўныя гістарычныя стэрэатыпы, а некаторыя звесткі стануць для чытачоў сапраўднай сенсацыяй.

Працяг на старонцы 2.

**Гаспадарка**

### Чыю ваду п'юць беларусы?

Хто пабудаваў сваё багацце на вадзе? **Старонка 7.**



**Чорны спіс**

### «Лайтсаўнд»: Нас знялі з усіх канцэртаў

Удзельнікі «Еўрабачання» трапілі ў няласку. **Старонка 8.**



**Культура**

### Найлепшая беларускамоўная рэклама

«Аліварыя» і постары да канцэрта «Грай». **Старонка 9.**




**Крымінал**

### Арыштаваны першы намеснік Ладуцькі?

КДБ не каментуе. **Старонка 10.**



# Мільянер Юрый Чыж хоча купіць «Крыніцу»

Улады **думаюць**.

Рашэнне ўладаў аб перадачы ўладніку «Трайпла» кантрольнага пакета акцый бровара праходзіць апошнія стадыі ўзгаднення.

Эксперты мяркуюць, што апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення ўладаў і якая заахвоціла іх нарэшце паспрабаваць прадаць завод прыватнаму інвестару, маглі стаць вынікі працы «Крыніцы» летась.

У 2011 найбуйнейшы вытворца піва на беларускім рынку, якім «Крыніца» з'яўлялася з 1976, упершыню саступіў лідарства групе кампаній «Хайнэкен». Сёлета група «Хайнэкен» па-ранейшаму трымае першынство па пастаўках на ўнутраны рынак.

Умовы магчымага продажу «Крыніцы» невядомыя. Але трэба меркаваць, што «Трайпл» зрабіў уладам больш выгадную прапанову, чым турэцкая кампанія Efes Breweries. Туркі прадаставілі ўраду Беларусі прапанову па кошце і план па перспектыўным развіцці завода ў канцы мінулага года, але атрымалі адмову: беларускія улады не задаволіла сума, якую гатовы быў заплаціць за «Крыніцу» пятнаццаты ў свеце вытворца піва.

Эпапея з прыватызацыяй «Крыніцы» — доўгая і насычаная падзеямі гісторыя.

У 2001 беларускія ўлады прадалі кантрольны пакет завода расійскай кампаніі «Балтыка», каб праз некаторы час ануляваць сваё рашэнне. «Балтыцы» давялося звяртацца ў міжнародныя суды, каб вярнуць інвеставаныя ў прадпрыемства амаль 11 мільёнаў даляраў.

У 2003 завод быў перададзены ў пяцігадовае давернае кіраванне «Прыёрбанку». Гэтая «нагрузка» разглядалася як своеасаблівая плата за ўваходжанне на беларускі рынак аўстрыйскай групы Raiffeisen.

Па заканчэнні пяцігадовага тэрміну з «Прыёрбанкам» паўстаў варыянт з прыцягненнем у якасці інвестара кампаніі SABMiller. Прычым, галоўным пасярэднікам — партнёрам сусветнага канцэрна называўся тагачасны галоўны беларускі алігарх Уладзімір Пефціеў. Але SABMiller і Пефціеў у выніку не рызыкнулі, а з траіх іншых прэтэндэнтаў, якія падалі летам 2009 заяўкі на тэндар па адбору кіруючага менеджара для «Крыніцы», арганізатары таргоў нікога не выбралі. Тэндар завяршыўся без аб'вешчання пераможцы.



PHOTO BYMEDIA.NET

Юры Чыж (у цэнтры) падчас правадаў беларускіх алімпійцаў у Лондан. Чыж узначальвае Федэрацыю барацьбы.

**Zautra.by**

## Сціісла

### Сваякі палітвязняў напісалі ліст Лорын

Шведская пераможца «Еўрабачання» прыедзе ў Беларусь на «Славянскі базар». Родныя рэпрэсаваных выращылі нагадаць, што ў нашай краіне парушаюцца правы чалавека, а за кратамі знаходзяцца палітвязні.

### Сезон вішань на Камароўцы

35 тысяч за бездакорныя ўзбецкія чарэшні і 25 тысяч за абы-якія слуцкія вішні — такія цэны трымаліся ў аўторак на мінскай Камароўцы. А вось лясных ягад зусім мала. Чарніцы каштавалі 35 тысяч за кг.

### Магілёўцы скокнулі з моста ў Дняпро за скрыню гарэлкі

33-гадовы мужчына патануў, а 39-гадовы знаходзіцца ў гарадской лякарні. Перад гэтым яны пабіліся аб заклад на скрыню гарэлкі.

### У Мінску трэснула трамвайная рэйка

Пасажыраў прыйшлося высадзіць. Магчыма, адбылося гэта праз анамальную спёку

### 24-гадовая раварыстка разбілася ў Мінску

Стан пацярпелай ацэньваецца як цяжкі. На адным са спускаў лыжаролернай трасы дзяўчына ўрэзалася ў агароджу і, зваліўшыся з ровара, ударылася галавой аб асфальт.

### Рабочыя Бабруйска пратэстуюць супраць зніжэння заробкаў

У цэху зборкі трактароў 9 ліпеня вячэрняя змена адмовілася працаваць. Гэта быў пратэст супраць таго, што ім не выплацілі прэміяльныя. Начальнік цэха зборкі трактароў Іван Асташоў тлумачыць знішчэ прэміі няякаснай працай калектыву. «Таму са 130%, якія яны маглі атрымаць, яны атрымалі 90%», — выказаў агенцтву БелаПАН сваё меркаванне пра сутнасць працоўнага канфлікту начальнік цэха.

**СГ, ЗП**

## Удакладненне

У артыкуле «Зручны мяч Сяргея Рутэнкі» («НН» №23) дапушчаная абдрукоўка. Насамрэч гадавы заробак гандбаліста складае 400 тысяч еўра, а не 40. Перапрашаем.

## Арлоў і Герасімовіч выдалі «Вялікае Княства»




Працяг са старонкі 1.

«Калі гадзіннік Вялікага Княства спыніўся, сама ідэя працягвала існаваць, — расказвае Уладзімір Арлоў. — ВКЛ было на кароткі час адноўлена ў 1812, за вяртанне дзяржаўнасці змагаліся паўстанцы ў 1831. У пачатку ХХ стагоддзя беларускія нацыянальныя дзеячы на чале з Антонам Луцкевічам выступілі з ідэяй стварэння канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага.

Ці шмат хто ведае, што 24 верасня 1939 у актавай зале Віленскай беларускай гімназіі адбылася ўрачыстасць з нагоды далучэння Вільні да Беларусі «на векі вякоў», дзе прысланыя з Мінска савецкія кіраўнікі выступалі разам з віленскімі беларусамі? Натуральна, ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да сучаснай Літвы мы не маем...»

Наклад кнігі — 5000 асобнікаў. Набыць «Вялікае Княства» можна ў кнігароў і ў «Акадэмкнізе», яе кошт — 350 тысяч рублёў. Дарэчы, паралельна і другое выданне кнігі «Краіна Беларусь» выйшла накладам 3000 асобнікаў і таксама з'явіцца ў крамах.

**Юрась Ускоў**

Рэакцыі

## Пра сапраўдных

«Бо я — сапраўдны беларус. **У адрозненне ад большасці**». Так і сказаў.

Можаце з мяне кпіць, і смяяцца паблажліва, о высакалобыя *інцелектуалы* і дасыціпныя *постмордаўпізты*, але адгарнуў я папяровую «НН» і прачытаў проста бліскучы допіс Паўла Севярынца — і чарговы раз упэўніўся, што гэта найлепшы наш эсэіст. Трапна, афарыстычна, вельмі цвяроза, цалкам адэкватна.

Я ўжо і раней пісаў пра Севярынцаву эсэістыку (больш за тое, на занятках чытаем з тэхнарамі яе як прыклад жанру), але паўтаруся. Пафас тут (літаральна — апантанасць Богам) ёсць не мастацкім прыёмам, але тым, чым гэты чалавек жыве і дыхае. Як Паўлу ўдаецца штотыдня выдаваць такія бліскучыя тэксты (пры гэтым працуючы, адказваючы на лісты, маючы такое абмежаванне ў рухах — здаецца, на хіміі і праца ў інтэрнэце забароненая)? Адкуль у яго гэтулькі шчырасці і Веры? Так, менавіта адтуль.

У чацвер, вяртаючыся дахаты, пабачыў каля крамы аўто («Форд С-макс», здаецца). Ззаду налепка Пагоні, на антэнцы бел-чырвона-белая стужачка, паўзверх ч-з сцяжка на дзяржнумары (!) — налеплены б-ч-б (праўда, відно, што хтосьці спрабаваў саскрэбсці). Ля аўто стаяў і гаспадар — сівы дзядзька гадоў 55. Я прыпыніўся, каб сказаць: прыгожая стужка. Ён адказаў літаральна наступнае: так, добрая стужка. Бо я — сапраўдны беларус. У адрозненне ад большасці. Так і сказаў.

І гэтак мне сумна стала адразу. Вось, бляха, гэтае славалюбства, гэтая псеўда-шляхецка-элітарная-выбранасць, гэтыя ўбогенькія панты... І адварочваюць люд паспаліты. Душыць, душыць у сабе трэба гэтую «сапраўдныбеларускасць». Хай яна будзе дзесьці глыбака, што паробіш, слабы чалавек. Вось праз гэта і ўсе паразы — праз гэтую фанабэрыстасць. Натуральна, чым больш ўціск, тым больш і супраціў. Натуральна, гэты дзядзька лепшы за яго аднагодкаў, якім усё поцэнтру па жыцці. Але ж гэтае «сапраўдны ў адрозненне ад большасці»...

Перапрашаю, набалела.

**Анатоль Івашчанка**

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перапаказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

## Самае чытанае на nn.by за 4—10 ліпеня

1 Новае відэа дэсанту мядзведзікаў: самалёт над Мінскам

2 Швед-«мядзведзіроўшчык»: Перасяклі мяжу ў раёне выступу

3 З'явілася відэа дэсанту мядзведзікаў над Беларуссю

4 Шведы сцвярджаюць, што бамбардавалі рэзідэнцыю Лукашэнкі цацкамі

5 Лукашысты ўмеюць па-беларуску!

6 Фактурны парад — неафіцыйны фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна

7 «Лайтсаўнд»: «Нас знялі з усіх эфіраў і канцэртаў»

8 Многа Колі — афіцыйны рэпартаж БелТА

9 Васямнаццаць мне ўжо + 18 фотаў за 18 гадоў

10 Мядзведзі, якія прызямліліся ў Сухараве — фотафакт

# Швед-«медзведзіроўшчык»: Пераляцелі мяжу ў раёне выступу, у Мінску аэрапорт нас выклікаў

**Арганізатар дзёрзкага палёту адказаў** на пытанні «Нашай Нівы».

Шведы спачатку меркавалі захаваць інкогніта, але недаверлівая рэакцыя шведскіх і беларускіх СМІ вымусіла іх раскрыцца. «Наша Ніва» напісала на мэйл, пазначаны на сайце шведскай ініцыятывы, што ўзяла на сябе адказнасць за смяротна рызыкоўную акцыю, і нам амаль адразу адказалі. Пэр Кромвэл (Per Cromwell) расказаў, што акцыю планавалі год, пілот атрымаў правы лётчыка толькі тры тыдні таму. Мяжу пераляцелі ў «раёне такога выступу на карце», што сам ён дзяжурыў у Івянцы на машыне і вылецеў у Стакгольм першым рэйсам. Што ў выпадку збіцця машыны меркавалася схавацца ў шведскім пасольстве. Што з самалётам кантактавалі з аэрапорта Мінск-1 па-расейску, і шведы нічога не зразумелі, але ў выніку пабаяліся ляцець над рэзідэнцыяй Лукашэнкі, як былі задумвалі спачатку.

Першым нашым пытаннем было: **ну і як яна, наша сінявокая Беларусь з вышыні птушынага палёту? Уражвае?**

— Яны [*сябры Пэра, што былі ў самалёце.* — **НН**] былі настолькі засяроджаныя на тым, каб даляцець да Мінска, што ні ў што не ўглядаліся. Але калі мы два месяцы таму прыязджалі ў Мінск, каб падрыхтавацца да прылёту на мясцовасці — то так. У вас фантастычна прыгожая краіна.

**— Дык вы так доўга і старанна рыхтаваліся?**

— Год! Амаль год!

**— А дзе мядзведзікаў узялі?**

— Праз інтэрнэт купілі і пачаплілі на іх цыдулкі.

**— Дарэчы, як называецца гэтая мадэль?**

— Самалёта?

**— Мядзведзіка.**

— Гм... Мядзведзь, проста мядзведзь.

**— Скажыце, а мяжу заўважылі, калі ляцелі? Неяк рэагавалі беларускія і літоўскія сістэмы паветранага кантролю, войска на тое, што вы перасякалі мяжу ў два бакі?**

— Ніяк! І гэта нас уразіла. Калі мы планавалі, то разглядалі як асноўны сцэнар, што нас перахопяць, але ніхто нас не заўважыў. Цікава, што і мяжа Літвы, а гэта значыць і Еўрасаюза, таксама непрыкрытая.

**— А дзе канкрэтна самалёт перасёк мяжу?**

— Я не ведаю, як называецца тая мясцовасць. Там такі... вялікі выступ на карце, тэрыторыя Літвы паўвостравам уразаецца ў Беларусь. [*Дзевянішскі выступ маецца на ўвазе, дзе тэрыторыя Літвы клінам уразаецца ў Беларусь у Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласці.* — **НН**] А пасля там першы гарадок. Не ведаю, як правільна ён вымаўляецца: Івановіч?

**— Івянец.**

— Вось, Івянец. Паводле дамоўленасці, я дзяжурыў у Івянцы на машыне. Бо гэта найбліжэй да мяжы [*па запланаванай лініі палёту.* — **НН**]. План быў такі: калі іх засякуць, то яны працягвалі б палёт. А калі прымусяць сядаць, то я павінен быў іх падабраць і кіравацца ў бок Мінска, каб паспрабаваць дабрацца да шведскага пасольства.

**— Пасольства ведала пра вашу задуму?**

— Што вы! Вядома, не. Мы ні з кім не гаварылі пра гэта. Мы нават між сабой баяліся камунікаваць унутры Беларусі, бо баяліся, што спецслужбы перахопяць нашы размовы... Дык вось, Івянец ідэальна пасаваў, каб чакаць [*Івянец, калі зірнуць на мапу Беларусі, сапраўды ляжыць амаль роўна на лініі Дзевянішкі — Мінск.* — **НН**]. Але ніхто самалёта не заўважыў і не перахапіў. І ён паляцеў на Мінск.

**— Спачатку «Афтанбладэт» — у артыкуле адразу пасля вашага палёту — напісала, што вы скінулі мядзведзікаў на рэзідэнцыю Аляксандра Лукашэнкі. Але на відэа там не рэзідэнцыя, а поўдзень Мінска.**

— Так-так. Напісалі, бо мы планавалі, што далецім да цэнтра, да рэзідэнцыі, і далі такую інфармацыю журналістам. Там у цэнтры наш чалавек дзяжурыў з фотаапаратам.

**— Швед ці беларус?**

— Швед. Мы свядома нікога з беларусаў не прыцягвалі да сваёй акцыі, бо разумелі, што за гэта чалавеку можа пагражаць.

Дык вось, на падлёце да Мінска пілота стаў выклікаць аэрапорт, які ў цэнтры горада [*аэрапорт Мінск-1, а мо шведы не так зразумелі.* — **НН**]. І яны пабаяліся ляцець над рэзідэнцыяй.

**— Што сказаў аэрапорт пілоту?**

— У тым і штука, што пілот не зразумеў, што яму казалі. Аэрапорт кантактаваў па-расейску, а пілот расейскай не разумее. Вырашылі не рызыкаваць. Скінулі парашуцікі на жылыя кварталы і паляцелі назад.

**— Адразу ў Швецыю?**

— Не, па дарозе прызямліліся ў Літве для дазапраўкі.

**— У тых самых Пацюнах (Pociunai)?**



Фота, зробленае ў самалёце.




— У тых самых Пацюнах. І спакойна даляцелі назад, і зноў ніхто іх не перахопліваў. І цяпер яны думаюць, што варта было ляцець і на рэзідэнцыю, што нічога не было б.

**— Яны вярнуліся ў Літву, а вы?**

— А я адразу — у Мінск, у аэрапорт, і першым рэйсам — у Стакгольм.

**— І вы хочаце сказаць, што вы самі прыдумалі такі план, што вас не рыхтавалі ніякія спецслужбы? У нас тут ужо некаторыя ствараюць тэорыі, што вас паслаў Пуцін, каб атрымаць аргумент у гандлі з Лукашэнкам.**

— (*Не смяецца.*) Ніхто нас не пасылаў. Ніякая дзяржава, ніякі ўрад не ведалі пра нашу задуму. Наадварот, мы страшэнна баяліся, каб нейкая спецслужба не перахапіла нашы перамовы і не сарвала наш план.

Гэта не была проста бравада. Гэта была акцыя падтрымкі апазіцыі ў Беларусі, падтрымкі свабоды слова.

Мы рыхтаваліся, мы прадумвалі. Мы дазналіся, што 3 ліпеня — гэта свята, і падумалі: на наступны дзень будзе пахмелле, большыя шанцы. Усё адно наш План А заключаўся ў тым, што нас перахопяць і будуць садзіць. Але ніводнага знішчальніка за час пералёту не заўважылі.

**— А калі б не садзілі, а збілі? Пра гісторыю з паветраным шарам ведаеце? Завяшчанне напісалі хлопцы?**

— (*Збіты з панталыку. З інтэрв'ю пілота вынікае, што шведы не ведалі пра тую гісторыю.*) Не, завяшчання не пісалі. Але мандраж быў. Яшчэ й які.

**— А дзе вы ўзялі самалёт, калі не сакрэт?**

— Купілі спецыяльна паўтара месяца назад. За 20 тысяч еўра прыкладна. А зараз мы яго зноў прадамо, мусіць.

**— Ужо былі прапановы? Машына ж аказалася надзейная.**

— Так (*смяецца*). Можа нам зараз удасца прадаць яе ўтрая даражэй. Але калі будзе цікавасць у нейкага музея, то мы і за 1 еўра аддамо. Усё ж гэта цяпер найперш сімвал барацьбы за свабоду слова. Дый пашкодзілі мы яго.

**— Пашкодзілі?**

— Мы яго перарабілі: у шкле выразалі фортку, каб можна было адчыняць і скідаць мядзведзікаў.

**— У «Нашу Ніву» акурат звярнуўся чытач, расказаў, што пайшоў шукаць і знайшоў мядзведзіка на даху свайго шматпавярховіка. Што б вы хацелі перадаць гэтаму чалавеку?**

— Таму чалавеку і ўсім беларусам хачу перадаць: вы не адны. Ведайце, што на беларусаў не забыліся. Хай сабе сусветныя СМІ больш пішуць пра галівудскіх зорак, а не пра тых, хто сядзіць у турмах, няхай... Ведайце: на Захадзе людзі памятаюць пра беларусаў.

**Мікола Бугай**



**Пэр Кромвэл**

заснавальнік рэкламнага агенцтва «Тотал», якое робіць сабе імя на вось такіх прынцыповых акцыях. Гутарка з ім адбывалася на наступны дзень пасля яго вяртання ў Швецыю. Сказаў, што зараз пойдзе прыме душ і правядзе гэты вечар сам адзін. Бо трэба адпачыць пасля ўсяго.

# 1987-2012



### Факты



**Самалёт шведаў**

Jodel D140. Гэта авіяскутар з размахам крылаў менш за 20 м і максімальнай хуткасцю 210 км/г.

**Радары**

Выяўленне лёгкаматорных самалётаў на нізкай вышыні — няпростая задача для сістэм СПА. На ўзбраенні беларускіх войскаў маецца РЛС малых вышыняў 19Ж6, якая працуе ў сантыметровым дыяпазоне: дальнасць выяўлення без перашкодаў — ад 30-150 км.

**Пілот**

«Мы ляцелі вельмі нізка. І ведалі, дзе ў Беларусі і ў Мінску стаяць радарныя ўстаноўкі».

**Чаму мядзведзікі**

Сімвал міру, дружбы ў піку мілітарызму і агрэсіўнай прапагандзе.

**Дата**

На наступны дзень пасля свята 3 ліпеня, палічылі шведы, у беларусаў будзе пахмелле і больш шанцаў праляцець.

**Што гаварылі савецкія газеты**

Мінабароны Беларусі сцвярджае, што відэа палёту шведскіх пілотаў над Беларуссю з'яўляецца мантажом і «груба сфабрыкаванай правакацыяй». «Даследуючы прадастаўленыя фота- і відэаматэрыялы, эксперты выявілі грубую працу з ужываннем тэхналогій фаташопу і відэамантажу, што сведчыць аб відавочна правакацыйным характары пададзенай інфармацыі», — падкрэслілі ў абаронным ведамстве.

**Адрэналін**

Як вынікае з інтэрв'ю, шведы не ведалі пра інцыдэнт у 1995, калі беларускі знішчальнік проста збіў паветраны шар, на якім у Беларусь выпадкова заляцелі два паветраплаўцы. Шведы меркавалі: калі іх засякуць, іх чакае турма. Але не думалі пра смерць.

**Кураж**

37-гадовы швед Томас Мазэці атрымаў лётную ліцэнзію за 3 тыдні да палёту.

**Самалёт Руста**

Cessna 172

**Даўжыня палёту**

Каля 1100 км.

**Радары**

Руст ляцеў высока і не хаваўся. Савецкая супрацьпаветраная абарона выходзіла з ім на сувязь, але ў выніку разгільдзяйства і жадання спіхнуць справу на суседнюю часць ён спакойна даляцеў да Масквы.

**Што гаварылі савецкія газеты**

Яны прызналі факт палёту і паведамілі пра расследаванне. Адмаўляць палічылі няёмкім: сведкамі прызямлення былі ў тым ліку шматлікія замежныя турысты на Краснай плошчы, якіх падзея заінтрыгавала.

**Хітрасць Руста**

Спачатку ён планаваў прызямліцца ўнутры Крамля, каб паказаць савецкаму кіраўніцтву, што і яно таксама неабароненае ў выпадку вайны. Але пасля перадумаў і сеў каля Краснай плошчы. Ён палічыў, што савецкі КДБ проста схавае факт прызямлення самалёта ў закрытым для публікі Крамлі, а самога яго знішчыць. Таму Руст выбраў варыянт прызямлення на вачах тысяч людзей.

**Вынікі палёту Руста**

Руст паказаў, чаго вартая савецкая вайсковая машына, што з'ядала агромныя рэсурсы. Гарбачоў быў вымушаны зняць міністра абароны і генералаў.

**Папуры**

Немец-дзівак быў папулярнай фігурай у поп-культуры. У яго гонар рокеры называлі альбомы, а эстонскі прэзідэнт Ленарт Мэры — свайго ваўкадава. Беларускі рок-гурт «Уліс» прысвяціў яму песню «Лунай, пан Руст!»

**Кураж**

18-гадовы Руст да палёту налятаў усяго 50 гадзінаў.

## Руст: проста дзівак

«Мне тады было 19. Мной кіравалі маё захапленне і палітычныя перакананні», — скажа пасля Матыяс Руст. У Дзень савецкага памежніка, 28 мая 1987, ён пасадзіў свой самалёцік ля Крамля, шакаваўшы ўвесь СССР. Ён хацеў паказаць камуністычнай вярхоўцы і генералам, што іх бяспека ўяўленая і што пара скарачаць арсеналы ўзбраенняў.

Як склаўся яго лёс? СМІ паведамлялі, што пасля выхаду з савецкай турмы і вяртання на радзіму Руст меў праблемы псіхалагічныя і з законам: напаў з нажам на медсястру, якая адкінула ягоныя авансы; сядзеў за гэта ў турме; пасля стаў індуістам і ажаніўся з індускай; скраў швэдар і яго зноў судзілі; быў яшчэ суд па абвінавачанні ў махлярстве... Руст раней казаў журналістам, што зарабляе гульнёй у покер, цяпер сцвярджае, што ён фінансавы аналітык аднаго банка ў Цюрыху. Прычым вышэйшай адукацыі ў яго няма.



Руста ніхто не наймаў для палёту ў СССР, гэта можна сцвярджаць пэўна.

**Сяргей Мікулевіч**

**Як пакаралі Руста**

У СССР яму далі 4 гады за злоснае хуліганства, парушэнне авіяцыйнага заканадаўства, незаконнае перасячэнне савецкай мяжы. З іх ён адседзеў год. На радзіме яго чакаў штраф 13 тысяч марак за ўзяты з аэраклуба самалёт і скасаванне лётнай ліцэнзіі. А таксама штраф у 100 тысяч даляраў за адключэнне камунікацыйнага абсталявання ў небе над Фінляндыяй у часе палёту на Маскву, што прывяло да арганізацыі выратавальнай аперацыі. Фіны меркавалі, што з самалётам здарылася катастрофа.

## «Гэта лухта, адкуль вы гэта ўзялі?»

**Людзі на вуліцах** Сухарава і Малінаўкі — пра мядзведжы дэсант.

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» знойдзенага мядзведзіка перадаў Сяргей, малады музыкант з Мінска. Ён жыве ў Сухараве. Калі навіна толькі з'явілася ў інтэрнэце, ён думаў, што гэта фэйк. Але, пабачыўшы новае відэа самалёта, які праляцеў літаральна над яго домам, рушыў з сябрамі на пошукі. У выніку яны знайшлі адно такое медзведзяня на дрэве ў сваім раёне і другое — на даху .

Мы запыталі ў жыхароў з мінскіх раёнаў Сухарава і Малінаўка, ці вераць яны ў «мішак».

— **Чулі, што над вашым раёнам шведскі самалёт скінуў сотні плюшавых мішак?**



**Хлопец:** «Ніхто тут нічога не скідаў. Гэта лухта, адкуль вы гэта ўзялі? У нас не хапае сваіх цацак, каб нам іх скідалі нейкія шведы? Аляксандр Рыгоравіч, я вам кажу, вы самы лепшы, у нас усяго хапае!



**Хлопец:** У нас жа СПА стаіць. Як самалёт сюды прапусцілі?



**Хлопец:** Не чуў пра гэта, але веру.



**Жанчына (працуе дворнікам):** Я кожны дзень на працы, нічога не бачыла. А калі б знайшла, то не зразумела б, што гэта. І, напэўна, выкінула б.



**Мужчына:** Калі б ляцеў самалёт з мішкамі, ужо б шмат людзей гэта пабачыла. Можа, гэта падкінулі. Каб у нашу Беларусь самалёт нелегальна заляцеў, не можа быць.



**Хлопец:** Не разумею, нашто ляцелі тыя самалёты на Сухаравам і Малінаўкай і раскідалі цацкі.



**Хлопец:** Хацелася б у гэта верыць. Калі б знайшоў, быў бы вельмі рады.

Як высветлілася, большасць мясцовых жыхароў нічога не чулі пра шведскі самалёт з цацкамі.

**Аксана Рудовіч**

**Павел Вінаградаў**

Былы палітвязень, які нядаўна адсядзеў 15 сутак за перформанс «Цацкі патрабуюць свабоды» шведам дзякуе: «Ідэя з мішкамі, якія выскокваюць з самалёта, выдатная і нечаканая. Шкада, што я да гэтага не дадумаўся сам. З другога боку, у мяне б на гэта не было сродкаў. Прыемна, што шведы падтрымалі нас такім арыгінальным чынам».

**Рэакцыя івянчан**

Міліцыя і пажарнікі здымалі цацкі з дрэваў і нават з даху ўнівермага, расказваюць відавочцы. Участковы інспектар Аляксей Букштановіч: «Мядзведзі? Не ведаю, не магу пацвердзіць. Я вам з поўнай адказнасцю заяўляю: ніякіх мядзведзікаў я не бачыў».

**Афіцыйна**

## Зафіксавана не было

Памежнікі вядуць кругласутачны візуальны кантроль паветранай прасторы Беларусі, у апошнія гады парушэнняў не выяўлена. Пра гэта заявілі ў Дзяржаўным памежным камітэце Беларусі.




Візуальны кантроль паветранай прасторы праводзіцца з дапамогай спецыяльных прыбораў, якія дазваляюць адсочваць усе нізкалётныя паветраныя мэты, растлумачылі ў Дзяржпамежкамітэце, каментуючы інфармацыю аб самалёце пад кіраваннем грамадзян Швецыі, які нібыта перасёк літоўска-беларускую мяжу.

У памежным ведамстве падкрэслілі, што нават калі б падобнае парушэнне мела месца, то быў бы закрануты гонар дзвюх сістэм СПА: беларуска-расійскай і НАТА, бо паветраную прастору над Літвой патрулююць менавіта сілы альянсу.

У той жа час памежнікі не вядуць кантроль на мяжы Беларусі і Расіі. У дзвюх краін агульная сістэма СПА.

Раней інфармацыю аб несанкцыянаваным перасячэнні літоўска-беларускай мяжы абверглі і ў Міністэрстве абароны Беларусі.

**Паводле БелТА**

**Каментар**

## Нічога страшнага

Што было б, каб самалёты скінулі мядзведзікаў на Вашынгтон?

У ЗША сітуацыя асаблівая. Амерыка вядзе войны з ісламскімі тэрарыстамі, якія не раз планавалі і ажыццяўлялі тэракты ў адплату. Пасля 11 верасня 2011 амерыканцы ўвялі цвёрдыя забароны на палёты ў зонах, дзе знаходзіцца прэзідэнт Абама, а таксама асноўныя дзяржаўныя аб'екты. Любы самалёт, які туды залятае, перахопліваюць знішчальнікі і прымусова садзяць. Такое здаралася ўжо не раз, бо ў Амерыцы прыватныя самалёты і верталёты — не раскоша, а сродак перамяшчэння.

Амерыканцы таксама крайне раўніва ахоўваюць межы сваёй краіны.

А вось мірныя еўрапейскія краіны ставяцца да такіх інцыдэнтаў спакайней. Каб нехта скінуў мядзведзікаў на Стакгольм, народ пасмяяўся б, і ўсё.

У Беларусі ж выпадак набывае асаблівае гучанне, бо роля сілавікоў у жыцці краіны выключная. Кіраўнік дзяржавы любіць з'яўляцца ў вайсковай форме і не раз выступаў з ваяўнічымі заявамі наконт абароны заходніх межаў Расіі. Таму шведскі рэйд выглядае дзёрзкім выклікам. Уласна, гэтага шведы і хацелі.

**Мікола Бугай**

# Чаму Ярмошынай далі візу?

**Абысці «чорны спіс» можна цалкам легальнымі спосабамі.**

Кіраўнікі Цэнтравыбаркама Лідзія Ярмошына і Мікалай Лазавік возьмуць удзел у канферэнцыі АБСЕ па выбарах. Мерапрыемства пройдзе 12-13 ліпеня ў Вене.

Чаму асобам, якія знаходзяцца ў «спісе неўязных» у Еўрасаюз, выдалі візы? Па словах аналітыка Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Андрэя Елісеева, у дзеяннях Еўрасаюза няма супярэчнасцей, бо ў Вене знаходзіцца штаб-кватэра АБСЕ.

«Згодна з нормамі міжнароднага права, краіна ЕС павінна выдаць візу асобе, афіцыйна запрошанай у штаб-кватэру міжнароднай міжурадавай арганізацыі. Краіна ЕС таксама павінна прадставіць асобе выключэнне з санкцый, калі яна прымае міжнародную канферэнцыю, арганізаваную пад эгідай ААН. Яшчэ адзін рэдкі выпадак — калі чыноўнік мае па-двойнае грамадзянства, то краіна ЕС не можа забараніць уезд свайму грамадзяніну».

У некаторых выпадках краіна ЕС можа, але не абавязаная выдаць візу. Так, выключэнні асобе з «чорнага спісу» могуць рабіцца для ўдзелу ў некаторых мерапрыемствах міжнародных арганізацый, а таксама з гуманітарных меркаванняў. Напрыклад, калі патрабуецца тэрміновая аперацыя ў заходнім шпіталі.

Андрэй Елісееў кажа: «Калі краіна ЕС хоча прадставіць такое выключэнне, то мусіць пісьмова паведаміць Радзе ЕС. Калі ніводная іншая краіна ЕС не выкажа пісьмовай нязгоды, то выключэнню даецца «зялёнае святло». Калі нязгода ёсць, то Рада ЕС кваліфікаванай большасцю прымае рашэнне».

Нагадаем, калі ў студзені 2012 міністр Куляшоў наведаў Францыю, супраць яго падалі скаргу ў мясцовую пракуратуру.

Ці можа быць спроба крымінальнага пераследу Ярмошынай у Аўстрыі?

«Скарга ў пракуратуру Парыжа з запытам арыштаваць Куляшова на падставе ўніверсальнай юрысдыкцыі грунтавалася на дасье, падрыхтаваным брытанскай юрыдычнай фірмай «McCue&Partners», — кажа Елісееў. — Іншыя два чыноўнікі, якім дасье закідае абвінавачанні ў міжнародных злачынствах — Аляксандр Лукашэнка і Вадзім Зайцаў (старшыня КДБ). Ярмошынай там няма, адпаведна, такой юрыдычнай працэдуры ў яе адносінах быць не можа».



**Ярмошына не заўважыла, што сцяг вісіць дагары нагамі. Гэта адбылося падчас адкрыцця адрамантаванага Палаца грамадзянскіх шлюбаў у Бабруйску.**

**Аксана Рудовіч**

# Апазіцыя ў рамках бачнасці

**Дэмакратаў пусцілі ў акруговыя камісіі, якія нічога не вырашаюць.**

На 110 акругаў будзе столькі ж камісій, у склад кожнай увойдзе 13 чалавек. Ва ўсіх абласцях будуць прадстаўленыя вылучэнцы ад апазіцыі. У сталіцы такіх будзе 14 чалавек. Восем чалавек ад «Справядлівага свету», 4 — ад БНФ, па 1 — ад АГП і БСДП.

У Брэсцкай вобласці «гуляліся ў дэмакратыю», старшыня аблвыканкаму Канстанцін Сумар папрасіў дадаткова ўключыць у камісіі шасцярых апазіцыянераў. Выйшла, што ў камісіі трапіла 15 апазіцыянераў. Тут таксама перавага на баку «Справядлівага свету».

Ад посткамуністаў прайшло 8 чалавек з 13 вылучаных. Па 2 чалавекі прадставяць БСДП і БНФ. На аднаго чалавека больш у АГП, хаця вылучалі яны восем прадстаўнікоў.

У астатніх абласцях сітуацыя горшая. Напрыклад, у Віцебскай у камісіі трапілі шэсць чалавек ад партый Калякіна і БНФ. А вось тое ж АГП, хоць і вылучала 7 прадстаўнікоў, засталося ні з чым. У адмове спасаліся на тое, што не паспелі з заяўкай.

У Гродзенскай вобласці 89% кандыдатаў на ўключэнне ў камісіі мелі ранейшы падобны досвед.

Сярод 20 партыйцаў, што трапілі ў склад камісій Гомельскай вобласці толькі трое з апазіцыйных партый. Астатнія прадстаўляюць праўладную Камуністычную партыю, Рэспубліканскую.

У Мінскай вобласці ў камісіі трапіла некалькі чалавек ад вядучых апазіцыйных партый. У выніку апазіцыя ў акруговых камісіях складзе менш за 1%. Большасць зоймуць вылучэнцы ад «Белай Русі», афіцыйных прафсаюзаў, Чырвонага крыжа.

Сябры акруговых камісій не ўдзельнічаюць у падліку галасоў, таму ўлады больш ахвотна ўключаюць у іх апазіцыянераў, чым, скажам, у склад участковых камісій.

Некаторыя апазіцыйныя партыі і арганізацыі нават не спрабавалі вылучаць сваіх прадстаўнікоў.

Парламенцкія выбары адбудуцца 23 верасня.

**Зміцер Панкавец**




**Колькасць апазіцыі ў акруговых выбарчых камісіях.**
**— колькасць дапушчаных.**
**— лічба вылучаных.**

| **Колькасць апазіцыі ў акруговых камісіях па абласцях** | | |
|---|---|---|
| Брэсцкая — 15 | Мінск — 14 | Гомельская — 3 |
| | Віцебская — 6 | Магілёўская — 3 |
| | Мінская — 4 | Гродзенская — 3 |

# Год «хатняй хіміі» і 57 млн штрафу кніганошу Яўдаху

**Ён шмат гадоў распаўсюджваў беларускамоўныя выданні.**

10 ліпеня ў Кастрычніцкім судзе Мінска вынеслі прысуд па справе ўладальніка інтэрнэт-кнігарні knihi.by Алеся Яўдахі. Яго прызналі вінаватым у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Алесь Яўдаха пакараны годам абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы («хатняя хімія»). Таксама пастаноўлена спагнаць з яго 54 мільёны 536 тысяч 600 рублёў кампенсавання шкоды і 2 мільёны 726 тысяч 830 рублёў дзяржаўнай пошліны.

Прынята рашэнне не здымаць арышт з канфіскаваных падчасператрусу ў Яўдахі манітора, сістэмнага блоку і прынтара, пакуль не будзе кампенсавана згаданая шкода. У кнігара ёсць час, каб абскардзіць прысуд.

Таксама прынята рашэнне пра знішчэнне трох пачатак і 30 кніжак «Маладафронтаўцы», з-за якіх і пачаўся пераслед Яўдахі. Яны і былі рэчыўнымі доказамі ў справе. Пасля адмашкі кнігаром зацікавілася падатковая інспекцыя, і справе быў дадзены ход. Яўдаха праз інтэрнэт-кнігарню распаўсюджваў кнігі беларускіх аўтараў, якія ў большасці не прадаюцца ў звычайных кнігарнях.

Працэс цягнуўся з мінулага ліпеня з паўгадавым перапынкам.

**Сяргей Макарэвіч**

# Зміцер Дашкевіч: «Я адмаўляюся выконваць любыя патрабаванні адміністрацыі любой калоніі»

**Палітвязень напісаў «яўку з пакаяннем».**

Нявеста Зміцера Дашкевіча Наста Палажанка 10 ліпеня наведала калонію ў Глыбокім, дзе хлопец адбывае зняволенне. Там Наста дазналася, што чатыры дні таму адміністрацыя калоніі падала дакументы ў Следчы камітэт на завядзенне новай крымінальнай справы супраць Дашкевіча за «невыкананне рэжыму калоніі».

Сам Зміцер Дашкевіч адрэагаваў на гэта лістом на апераджэнне на імя начальніка калоніі, які ён саркастычна назваў «яўкай з пакаяннем».

«Я, Дашкевіч Д.В., прызнаю сябе вінаватым у тым, што свядома адмаўляюся выконваць некаторыя патрабаванні адміністрацыі калоніі, якія лічу незаконнымі.

Каб спрасціць працу правакатарам, агентам і Следчаму камітэту, я адмаўляюся выконваць любыя патрабаванні адміністрацыі любой калоніі, у якой я буду знаходзіцца.

Раю беларускім спецслужбам асудзіць мяне на максімальны тэрмін, прадугледжаны арт. 411 КК РБ, пры гэтым рыхтуючы на мяне новыя крымінальныя справы ў кожнай новай калоніі.

Зміцер Дашкевіч, 10.07.2012».

Паводле гэтага артыкула Дашкевічу можа пагражаць да 1 года зняволення. Лідар «маладафронтаўцаў» Зміцер Дашкевіч быў арыштаваны 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку. Разам з ім судзілі паплечніка Эдуарда Лобава. У выніку Дашкевіч атрымаў два гады зняволення, Лобаў — 4.

За кратамі ад Дашкевіча неаднаразова патрабавалася, каб ён напісаў прашэнне аб памілаванні, але вязень адмаўляўся. На волю Зміцер павінен выйсці 19 снежня, калі не будзе заведзеная новая справа.

**ЗП**

## Сцісла

**Бяляцкі займаецца ўпакоўкай міліцэйскіх пагонаў**

На гэтым тыдні Фонд імя Генрыха Бёля (нямецкія Зялёныя) ўзнагародзіў Алеся Бяляцкага прэміяй Петры Келі.

**Новы пасол Германіі**

Дыпламатычную місію гэтай краіны мае ўзначаліць Вольфрам Маас. Яму 62 гады. Да гэтага працаваў у Індыі, Сербіі, ЗША.

**Ляцяць госці**

Афіцыйны візіт у Беларусь прэзідэнта Азербайджана Ільхама Аліева запланаваны на канец жніўня. А вось прэм'ер Расіі Дзмітрый Мядзведзеў будзе ў Мінску ўжо на наступным тыдні.

**Лідарам ЛДП пераабраны Сяргей Гайдукевіч**

Прайшоў з'езд ліберал-дэмакратаў. Партыя выставіць спарынг-партнёраў на ўсіх 110 участках.

**ЗП**

# Указ не роўна дзеліць

У Стоўбцах указ Лукашэнкі №13 паставіў сяброў жыллёвага кааператыва ў **няроўныя ўмовы**.

80-кватэрны дом жыллёва-будаўнічага спажывецкага кааператыва «Стоўбцы-2» планавалі здаць у эксплуатацыю ў маі сёлета. Але на месцы дома пакуль толькі падмурак. Гэта не адзіная праблема, з якой сутыкнуліся сябры ЖБСК.


АЛЯКСАНДР ДОЎНАР

Панарамны від Стаўбцоў.

Кааператыў быў заснаваны ў маі 2010 рашэннем Стаўбцоўскага райвыканкама. Яго ўдзельнікі адносяцца да катэгорыі малазабяспечаных, таму крэдытаванне будаўніцтва мусіла ажыццяўляцца згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі ад 14 красавіка 2000 № 185 «Аб прадастаўленні грамадзянам ільготных крэдытаў і аднаразовых субсідый на будаўніцтва (рэканструкцыю) або набыццё жылых памяшканняў».

> Згодна ўказу №13, права на льготны крэдыт маюць жыхары населеных пунктаў да 20 тысяч чалавек. Максімальны памер крэдыту не перавышае 90% ад кошту жылля, што будуецца. Такія крэдыты выдаюцца на 20 год пад 10% стаўкі рэфінансавання Нацбанка, якая дзейнічае на дату зацвярджэння спісаў на льготнае крэдытаванне, але не менш за 3%. Для шматдзетных сем'яў крэдыт выдаецца на 40 год пад 1% гадавых. Памер крэдыту — 100% ад кошту жылля.

У ліпені 2011 райвыканкам зацвердзіў спісы, людзі пачалі заключаць з «Беларусбанкам» крэдытныя дамовы.

Аднак у кастрычніку таго ж года банк прыпыніў крэдытаванне льготнага будаўніцтва згодна з рашэннем Саўміну — да «вызначэння аб'ёму фінансавання будаўніцтва на 2012 год».

На той момант 22 сябры кааператыва «Стоўбцы-2» не паспелі заключыць крэдытныя дамовы. Цяпер на іх распаўсюджваюцца нормы ўказа №13 ад 6 студзеня 2012 г. «Аб некаторых пытаннях прадстаўлення грамадзянам дзяржаўнай падтрымкі пры будаўніцтве (рэканструкцыі) або набыцці жылых памяшканняў».

Што азначаюць для іх такія змены? Паводле ўказа №13 ім давядзецца плаціць стартавы ўнёсак у памеры 10% ад агульнай сумы ўласнымі грашыма. Указ №185 гэтага не прадугледжваў. Акрамя таго, тэрмін пагашэння крэдыту скарачаецца з 40 гадоў да 20, а плаціць па крэдыце давядзецца каля 4%, а не 1%, як у выпадку з указам №185.

«Мы разам стварылі кааператыў, былі ў адным спісе. А цяпер выходзіць, што мы будзем плаціць у два разы больш», — абураюцца сябры кааператыва, якія не паспелі атрымаць крэдыт на ранейшых умовах. Яны лічаць, што маюць не меншыя правы на льготныя ўмовы, чым іх 58 больш шчаслівых суседзяў. «У нашу сітуацыю мог трапіць любы са спіса, проста так склалася чарга», — кажуць пакрыўджаныя сябры кааператыва. Яны звярталіся ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай выдзеліць ім льготны крэдыт на ранейшых умовах. Сваю просьбу людзі матывавалі тым, што трапілі ў складаную сітуацыю не па сваёй віне.

Зварот з Адміністрацыі пераадрасавалі ва Упраўленне ЖКГ Мінаблвыканкама. Адтуль прыйшоў адказ: крэдытаванне рэшты сяброў кааператыва будзе адбывацца на ўмовах указа №13.

«Мы змырыліся і будзем будавацца па новых умовах — жыць жа трэба недзе. Але крыўда ўсё адно застаецца. Калі ўсё пачыналася, то шмат размоваў было пра льготныя ўмовы для жыхароў маленькіх гарадоў. Цяпер жа тут амаль немагчыма пабудавацца», — кажа адзін з сяброў кааператыва «Стоўбцы-2».

Сітуацыя з кааператывам у Стоўбцах не ўнікальная. Напрыклад, у Шчучыне ўказ №13 падзяліў удзельнікаў адразу некалькіх кааператываў. Ва ўмовах скарачэння памеру рэальных заробкаў, многія сем'і ў рэгіёнах апынуліся няздольнымі аплаціць крэдыт па новых умовах.

**Сямён Печанко**


КАСТУСЬ ШЫТАЛЬ

**Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч даехаў да Будслава на ровары.**

# Будслаў: фэст на Купалле

Фэст радуе **атмасферай светліні** і неафіцыйнай беларускасцю.

Дзясяткі тысяч вернікаў розных канфесій у першую суботу ліпеня збіраюцца ў мястэчку ў Мядзельскім раёне, каб ушанаваць абраз Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі.

Найбольшыя пілігрымкі ішлі сёлета з Мінска (300 чалавек), Баранавіч, Нарачы, Маладзечна. Імшу ў Будславе адслужыў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. Дарэчы, частку дарогі да Будслава ён адолеў з паломнікамі, у тым ліку на ровары разам з мінскай веласіпеднай пілігрымкай. Суслужылі мітрапаліту іншыя беларускія біскупы.

Гасцямі фэсту былі апостальскі нунцый арцыбіскуп Гуджэроці і біскуп Саратаўскі з Расіі Клеменс Пікель.

«Касцёл у Расіі заўсёды быў меншасцю ў дыяспары. Парафіі знаходзяцца далёка адна ад адной. Людзі перажываюць гэтую адзіноту. Калі ж прыязджаеш сюды, то вельмі прыемна на душы», — казаў ён.

Раней фэст праходзіў 2 і 3 ліпеня, але ад гэтага года вырашылі ладзіць яго ў першыя выхадныя ліпеня. Сёлета вернікі сабраліся ў Будслаў увечары 6 ліпеня.

Шмат дзе ў Беларусі ў гэту пару адзначалі Купалле. Густыя дымы і высокія агні суправаджалі запозненых паломнікаў на шляху да санктуарыя. Асабліва ўражвала ў прыцемку купальскае вогнішча над Вілейскім вадасховішчам.

Апошнія перадбудслаўскія кіламетры парадавалі новым асфальтам. Аўтобусы прыпынак у вёсцы Альхоўка, на радзіме паэта Славаміра Адамовіча, — ілюмінаванай каплічкай, якая мігціць уначы. Сам фэст — тым, чым заўжды радуе: атмасферай светліні і неафіцыйнай беларускасцю.

**Сяргей Мікулевіч**

# Мітрапаліта Філарэта хуткая забрала з літургіі

7 ліпеня ў Петра-Паўлаўскім кафедральным саборы Гомеля праходзілі ўрачыстыя мерапрыемствы з нагоды ўступлення на пасаду япіскапа Стафана як кіруючага архірэя Гомельскай і Жлобінскай епархіі. На Боскую Літургію прыбыў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.

Мітрапаліта пры ўваходзе ў храм сустракалі дзясяткі вернікаў і святароў, да сабора Уладыка ішоў па дарожцы, засланай кветкамі. Парафіяне падносілі Мітрапаліту дзяцей для дабраславення.

Прыкладна апоўдні да задняга ўваходу сабора пад'ехала машына «хуткай дапамогі». Уладыку вынеслі з храма на насілках і павезлі з уключанай сірэнай у суправаджэнні міліцэйскай машыны.

Яго даставілі ў Гомельскую гарадскую клінічную бальніцу хуткай дапамогі. Як расказалі ў бальніцы, Філарэта паклалі ў рэанімацыю.

Праўда, увечары стан Мітрапаліта палепшаў, і ён змог адправіцца ў Мінск. Праз духату ў Філарэта падчас набажэнства з'явілася лёгкае недамаганне на фоне гіпертэрміі і павышанай вільготнасці ў храме.

На наступны дзень уладыка маліўся і прычашчаўся ў мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Мітрапаліту Філарэту 77 гадоў.

**ЯМ**

# Глеб будзе гульцом БАТЭ?

Прынамсі, некалькі месяцаў.

Самы тытулаваны футбаліст Беларусі апошняга дзесяцігоддзя Аляксандр Глеб можа вярнуцца дадому.

Глеб пачынаў сваю прафесійную кар'еру менавіта ў БАТЭ. Пасля былі зорныя «Арсенал» і «Барселона», «Штутгарт» і «Вольфсбург», але апошнім часам кар'ера ішла ўніз. Дапякалі траўмы. Сам Аляксандр прызнаваўся, што дапусціў шмат памылак, таму не раскрыў увесь талент.

Генеральны дырэктар БАТЭ Анатоль Капскі кажа: «Глеб з намі проста трэніруецца, і не больш за тое».

Таксама БАТЭ блізкае да падпісання яшчэ аднаго ўзроставага гульца — Рамана Васілюка, найлепшага снайпера ў гісторыі беларускага футбола. І Глеб, і Васілюк нацэленыя на тое, каб дапамагчы камандзе ў Лізе чэмпіёнаў, калі многія гульцы БАТЭ будуць на Алімпіядзе.

**Зміцер Панкавец**



**Глеб (справа) пачынаў у БАТЭ.**

# Чыю ваду п’юць беларусы?

**Уладзімір Дзялендзік, Юрый Чыж і Анатоль Арцюхоўскі** пабудавалі сваё багацце на вадзе.

Марозіва, сокі і воды — найлепшыя прыклады сезонных прадуктаў. Продаж гэтых тавараў расце ў маі і падае толькі ў верасні. Таму спякотны ліпень для вытворцаў — кульмінацыя года. На прылаўках прадстаўлена шмат марак, таму купец мае выбар, каму з вытворцаў аддзячыць рублём. Хто самыя заўважныя гульцы на рынку водаў?

### «Дарыда». Завод — Ждановічы, Мінскі раён

Доўгія гады лідарам па продажах лічылася прыватная кампанія «Дарыда» на чале з Уладзімірам Дзялендзікам. Яго біяграфія падобная да лёсу многіх бізнэсоўцаў пачатку 1990-х. Нарадзіўся ў 1952 у вёсцы на Салігоршчыне, працаваў слесарам, а пасля інжынерам, з развалам Савецкага Саюза стварыў сваю кампанію. «Дарыда», заснаваная ў 1992, займалася аптовым гандлем і грузаперавозкамі. Кампанія з офісам у Ждановічах была афіцыйным дылерам МАЗа. Толькі ў 1997 Дзялендзік заняўся мінеральнай вадой. Па яго словах, выбар профілю быў выпадковым. Для офіса была патрэбная вада, а ў зробленай па суседстве свідравіне яна аказалася высокай якасці, падобнай да «Баржомі». З таго часу «Дарыда» стала спецыялізавацца на водным бізнэсе.

Вышэйшую адукацыю Дзялендзік атрымаў толькі ў 43 гады, калі скончыў сумнеўную філію Кіеўскага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта ў Крывым Рогу. Неўзабаве ў кішэні аказаўся другі дыплом, выдадзены грамадскай арганізацыяй Міжнародная акадэмія інфармацыйных тэхналогій.



Уладзімір Дзялендзік

Справы Дзялендзіка тым часам ішлі ўгару не толькі ў навуковым плане. Ад 2000 ён на два тэрміны абіраўся у палату прадстаўнікоў, атрымаўшы дэпутацкую недатыкальнасць. Паход бізнэсоўцаў у палітыку выклікаў незадаволенасць Аляксандра Лукашэнкі, які заявіў, што ў парламенце павінны быць усе слаі грамадства, апроч камерсантаў. Выйсце была знойдзена, бізнэс аказаўся ў руках сям’і. Дырэктарам «Дарыды» стала жонка Ганна Дзялендзік, а заснавальнікам кампаніі — дачка Наталля, якая атрымала адукацыю за мяжой. Лёс сына мільянера быў трагічным, ён не дажыў да паўналецця.

У 2000-я абароты «Дарыды» моцна раслі, прадукцыя пайшла на імпарт. У прыватнасці, у кампаніі моцныя пазіцыі ў Прыбалтыцы. Хапала грошай і на дабрачыннасць — Дзялендзік дапамагаў дзіцячым дамам, музеям і царкве, за што атрымаў ордэн Кірылы Тураўскага. Апроч таго, мільянер стварыў прыватны футбольны клуб, які праіснаваў дзевяць гадоў, прычым ад 2003 да 2008 «Дарыда» гуляла ў вышэйшай лізе чэмпіяната Беларусі. Праўда, скончылася гісторыя не па-спартыўнаму. Дзялендзік быў пераканаены, што Беларуская федэрацыя футбола выкывае ягоную каманду з чэмпіянату, таму суддзі наўмысна прымаюць рашэнні не на карысць яго каманды. У выніку «Дарыда» была распушчана, а стадыён у сталічным мікраёне Кунцаўшчына прададзены мінскаму «Дынама» Юрыя Чыжа.

### Мінскі завод безалкагольных напояў («Мінская», «Бела-Кола», «Мультытэль»).

Завод, заснаваны яшчэ ў 1966, быў выведзены са складу дзяржаўнага канцэрна «Белдзяржхарчпрад». Ягоным



Анатоль Арцюхоўскі

кіраўніком бяззменна застаецца адзін з апошніх «чырвоных дырэктараў». Дарэчы, сын дырэктара, Дзмітрый узначальвае аддзел маркетынгу завода.

На пачатку 2012 антыманапольнае ўпраўленне Мінгарвыканкама ўключыла завод у спіс кампаній, якія займаюць дамінуючае становішча на гандлёвых рынках Мінска. Гэта значыцца, яго доля на рынку ў пазіцыі «мінеральная вада» перавышае 65%.

Насуперак сваёй назве, завод не грэбуе зарабляць і на вытворчасці алкаголя, у тым ліку моцнага — віна, каньяку, віскі... Да нядаўняга часу кампанія з’яўлялася адным з найбуйнейшых вытворцаў слабаалкагольных джын-тонікаў.

Як прадпрыемства набліжанае да дзяржавы, завод не адмаўляецца і ад падтрымкі калгасаў. У сельскагаспадарчае прадпрыемства «Вілія-Агра», па словах Арцюхоўскага, давялося ўкласці каля $7 мільёнаў.

### «Кока-кола» (BonAqua, Sprite, Fanta, Schweppes, «Фруктайм»). Завод — Калядзічы, Мінскі раён.

Адзін з рэдкіх паспяховых прыкладаў працы сусветнай карпарацыі ў Беларусі. «Кока-кола» прыйшла ў Беларусь у 1994 як партнёр Мінскага завода безалкагольных напояў, а праз тры гады арганізавала ўласную вытворчасць каля сталіцы. Цяпер завод мае філіі ва ўсіх абласных цэнтрах, Баранавічах і Бабруйску.

Уласнікам завода з’яўляецца кампанія «Кока-кола Беўрыджыс Беларусь», якая, у сваю чаргу, уваходзіць у грэчаскі холдынг Coca-Cola Hellenic. Галоўнаму амерыканскаму офісу належыць каля чвэрці акцый грэчаскай кампаніі, столькі ж мае мясцовы інвестар, а астатнія акцыі знаходзяцца ў свабодным звароце на біржах.

Доля «Кока-колы» ў эканоміцы Беларусі летась пашырылася за кошт куплі смалявіцкай кампаніі «Вланпак», якая выпускае сокі і нектары Magic Summer і Rio.

### «Фрост». Завод — Хомск, Драгічынскі раён.

Сумеснае расійска-беларускае прадпрыемства «Фрост і К» вылучаецца сярод канкурэнтаў сваёй аддаленасцю ад Мінска — вада разліваецца ў палескай глушы. Дырэктар кампаніі — бізнэсовец Уладзімір Мароз. Дарэчы, «мароз» у перакладзе на англійскую мову і гучыць як «фрост». Пад гэтым брэндам і прадаецца ўся прадукцыя кампаніі. А рэкламным тварам «Фроста» з’яўляецца спявачка Ірына Дарафеева.

### «Акватрайпл» («Дарэчы», «Сочы», «Фантана», «Крынічная вада»). Завод — Сосны, Мінскі раён.

Складана знайсці галіну беларускай эканомікі, у якой не прадстаўлены Юрый Чыж. Воды і напоі — не выключэнне. Зрэшты, менавіта газіроўка была адным з першых праектаў мільянера. Нафтаперапрацоўка і будаўніцтва прыйшлі ў жыццё Чыжа значна пазней, але сталі прыярытэтнымі. Таму «Акватрайпл» і адстае ад чацвёркі лідараў.

Апроч вытворчасці безалкагольных напояў, кампанія Юрыя Чыжа ўвозіць алкаголь з-за мяжы, маючы статус спецімпарцёра.

**Ягор Марціновіч**

Уладзімір Мароз



# Беларусь дапаможа Венесуэле… выйсці ў космас

**Кітай дасць грошы**, а Беларусь — тэхналогіі.

Уга Чавэс хоча зрабіць Венесуэлу касмічнай дзяржавай. Як заявіў пасол лацінаамерыканскай краіны Амерыка Дыяс Нуньес, на поўначы краіны, у штаце Арагуа, неўзабаве пачнецца будаўніцтва касмадрома. З яго будуць запускацца не ядзерныя ракеты, а спадарожнікі. Пакуль што спадарожнікі для Венесуэлы вырабляюць кітайцы, аднак дасягнута пагадненне пра тое, што яны будуць збірацца на месцы.

Праект з’яўляецца трохбаковым: Беларусь дасць тэхналогіі, а Кітай забяспечыць фінансаванне.

Два гады таму тады яшчэ старшыня прэзідыума Акадэміі навук Міхаіл Мясніковіч казаў, што ў беларускіх касмічных тэхналогіях зацікаўленая не толькі Венесуэла, але і Іран. «Мы гатовы супрацоўнічаць з ЗША і ЕС», — сказаў будучы прэм’ер.

Што датычыць паўднёваамерыканскага рэгіёна, дык касмадром маецца паблізу горада Куру ў суседняй з Венесуэлай Французскай Гвіяне. Асноўныя пускавыя пляцоўкі ў Куру належаць Еўрапейскаму касмічнаму агенцтву. Гэты касмадром лічыцца адным з найбольш бяспечных. Апошні запуск тут адбываўся ў лютым сёлета. На арбіту выйшла італьянская чатырохступеневая ракета «Вега».

Відаць, наяўнасць побач такога аб’екта не дае спакою Уга Чавэсу. Многія дыктатары захапляюцца космасам. Напрыклад, касмічная праграма ёсць у жабрацкай Паўночнай Карэі.

**Зміцер Панкавец**

## Сцісла

### Рэзервы: трывожны рост…

Аб’ём золатавалютных рэзерваў Беларусі на 1 ліпеня дасягнуў $8,33 мільярдаў. За месяц яны выраслі на $291 мільён, але такая лічба дасягнута толькі дзякуючы надыходжанню трэцяга траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС на $440 мільёнаў. Калі б не крэдыт, запасы зменшыліся б. Прычым змяншэнне мела б найбольшы ад сярэдзіны 2011 памер.

### Новая місія МВФ

У Беларусі пачала працу новая місія МВФ на чале з эканамістам Давідам Хофманам. Ён сустрэўся з прэм’ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам, які запэўніў дэлегацыю, што Беларусь зацікаўленая ў атрыманні новага крэдыту.

### Бярозаўскі сыраробны камбінат нарасхват

Інвестары з Галандыі і Швейцарыі, а таксама Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця гатовыя ўкласці грошы ў бярозаўскую вытворчасць. Гэта адно з чатырох малочных прадпрыемстваў, якім дазволена экспартаваць прадукцыю ў краіны ЕС. Для мадэрнізацыі трэба прыцягнуць каля 10 мільёнаў еўра.

### Малако Машэнскага ў Еўропе

Чатыры беларускія малочныя кампаніі змогуць пастаўляць прадукцыю ў Еўрасаюз. Гэта завод у Верхнядзвінску, а таксама тры кампаніі мільянера Аляксандра Машэнскага — «Санта Брэмар», «Савушкаў прадукт» і Бярозаўскі сыраробны камбінат. Якасць іх прадукцыі ацанілі еўрапейскія эксперты.

**ЯМ**

# «Лайтсаўнд»: «Нас знялі з усіх эфіраў і канцэртаў»

Музыкі тлумачаць сітуацыю асабістай крыўдай міністра культуры **Паўла Латушкі**.



На «Еўрафэсце» «Лайтсаўнд» са скандалам перамог Алёну Ланскую (у цэнтры).

PHOTO.BYMEDIA.NET

«Дадзена адпаведная каманда зверху (наколькі я разумею, з Міністэрства культуры і Адміністрацыі прэзідэнта)», — адзначыў прадзюсер гурта Юры Каракін выданню «Тут і цяпер». «Лайтсаўнд» прадстаўляў краіну на апошнім «Еўрабачанні» ў Баку, але не змог выйсці ў фінал.

«На сустрэчы Лукашэнкі з таленавітай моладдзю (куды, дарэчы, «Лайтсаўнд», пераможца дзвюх нацыянальных прэмій 2011, не быў запрошаны) прагучала, што гурт «Лайтсаўнд» арганізаваў на «Еўрабачанні» нейкую бойку. І на пытанне прэзідэнта, ці сапраўды гэта было, міністр, як нам расказалі, пацвердзіў: так, гэта было на самай справе. Хоць насамрэч бойкі не было, і мы ўжо не раз расказвалі пра гэта!», — кажа Каракін.

Падчас 3 ліпеня гурт не меў ніводнага выступу на святочных мерапрыемствах. «Мне здаецца, гэта падобна на помсту...», — ківае на Паўла Латушку прадзюсер гурту.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**

### Google святкуе юбілей Янкі Купалы




Наведвальнікі пошукавай сістэмы Google.by пры ўваходзе на старонку 7 ліпеня бачылі партрэт Янкі Купалы. Так сусветны пошукавік павіншаваў класіка беларускай літаратуры з юбілеем.

# У Мінску паставяць помнік усім чэкістам

**Першы такі** на тэрыторыі СНД.



Аўтар эскізу — скульптар Уладзімір Жбанаў, які сёлета пайшоў з жыцця.

Мяркуецца, што бронзавы шчыт вышынёй 3,5 і шырынёй 2 метры з'явіцца ля плошчы Змітрака Бядулі ў снежні, на дзень чэкіста.

На ім будуць тры барэльефы: заснавальніка ВЧК Фелікса Дзяржынскага; салдата часоў Вялікай Айчыннай вайны, што сімвалізуе ўсіх чэкістаў, якія змагаліся з фашызмам; і сучаснага супрацоўніка органаў дзяржбяспекі.

Акрамя гэтага на шчыце будуць адлюстраваныя: абеліск Перамогі ў Мінску, Сафійскі сабор у Полацку і Холмскія вароты Брэсцкай крэпасці. Усё гэта будуць абдымаць бронзавыя крылы буслоў.

**ЛМ**

# Ліда і Івацэвічы — гарады нявестаў

Тут нараджаецца **дзяўчынак больш**, чым хлопчыкаў.

У двух беларускіх гарадах дзяўчынак нараджаецца больш, чым хлопчыкаў — такім выключэннем з агульнага правіла з'яўляюцца Ліда і Івацэвічы.

Як сведчыць дэмаграфічная статыстыка, у Беларусі (як, зрэшты, і ва ўсім свеце): штогод на 100 дзяўчынак нараджаецца ў сярэднім 106 хлопчыкаў.

Аднак летась у двух гарадах гендэрная перавага склалася на карысць нованароджаных прадстаўніц слабага полу: у Лідзе на 616 хлопчыкаў нарадзілася 658 дзяўчынак, у Івацэвічах — 155 дзяўчынак на 130 хлопчыкаў.

**БелТА**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Канцэрт самаНАдзейнасці

Напярэдадні 3 ліпеня я меўся сустрэцца з адной карэннай жыхаркай Мінска, якая жыве практычна на тым жа месцы, дзе нарадзілася і жыла да вайны, у вайну і пасля вайны. Ці знойдзецца ў Мінску чалавек, які перажыў самыя змрочныя часіны ХХ стагоддзя не сыходзячы, так бы мовіць, з месца?..

Сустрэча, на жаль, не адбылася, дакладней, адкладася, пакуль трохі не палепшае яе самаадчуванне. Але коратка ўсё ж паразмаўлялі.

...Нечакана я пачуў у тэлефоне стрыманы ўсхліп, а потым плач. Мусіць, нешта зварухнуў у яе памяці. Праз слёзы яна пачала расказваць, як сямігадовай дзяўчынкай бегала да немцаў па цукеркі, а потым дзялілася імі з яўрэйскімі дзеткамі, якіх, разам з іх бацькамі, хавалі яе бацькі... Як штоноч паўстае перад вачыма постаць таты пасля вяртання з Бухенвальда...

Вось ужо тыдзень я чую той плач.

3 ліпеня скрозь гэты плач адбівала цяжкі пагрозлівы крок, скрыгатала гусеніцамі і раўло смярдзючымі рухавікамі парадное войска...

Зрэшты, усе ведаюць, што адбывалася 3 ліпеня на вуліцах і плошчах горада. Але не ўсе ведаюць, што на вуліцы Кастрычніцкай не адбывалася анічога.

3 ліпеня я паехаў на вуліцу Кастрычніцкую да дражджавога завода, ля брамы якога 26 кастрычніка 1941 адбывалася смяротнае пакаранне першых мінскіх падпольшчыкаў — Кірылы Труса, Валодзі Шчарбацэвіча і Машы Брускінай. Пяць гадоў таму, калі на гэтым месцы ўлады ўсталявалі нарэшце адпаведны даўнім падзеям мемарыяльны знак, «СБ», ухваляючы рашучасць і справядлівасць кіраўніка дзяржавы, пафасна ўсклікала: «... сюды не зарасце народная сцежка!».

Зарасла... Аніводнай прыкметы таго, што ў дзень вызвалення горад успомніў і хаця б кветачкай ушанаваў першых герояў антыфашысцкага Супраціву...

Дык што ж тады адбывалася ў Мінску тыдзень таму, у трэці спякотны дзень ліпеня?

Адкуль яны, усе гэтыя грымоты ды бліскавіцы ў дзень, які прагне памяці і цішыні?!

Я ведаю адкуль — ад калгаса імя Варашылава на чале са старшынёй па прозвішчы Піліпаў. У дзіцячых гульнях, пахваляўся Піліпаў, ён лічыўся «Варашылавым». Добра хоць не «Сталіным», як ягоны сябра, бо імя Варашылава Піліпаў надаў калгасу выключна ў гонар самога сябе. У дзень таго ці іншага савецкага свята ён чапляў на пінжак чырвоную стужку, узыходзіў на ганак праўлення, ставіў побач сынка-аднакласніка, ззаду — парторга, жонку-бухгалтарку, агранома, даярку Гэлю з ордэнам «Знак Пашаны» на грудзях, дзеда Мацвея,

### Гісторыя не дарue ні самадзейнасці, ні саманадзейнасці

які лічыўся ўдзельнікам штурму Зімняга, і ўчастковага Сушко ў міліцыянерскім мундзіры... І прымаў ці то дэманстрацыю, ці то парад — кожную брыгаду на чале з брыгадзірамі, вучняў школы з настаўнікамі, напрыканцы — падфарбаваную калгасную тэхніку на чале з заўгарам... Ветліва махаў рукой, калі-нікалі з капялюшом, зачаравана слухаў барабан з гармонікай ды літаўрамі і смешнае, праз пень-калоду, «ура». Мусіць, мроілася, што так будзе заўжды... Ну, а ўвечары канцэрт самадзейнасці ў паўразваленым клубе...

Гэля ўрэшце з'ехала з мужам у Латвію, заўгар падаўся ў цырульнікі, а Сушко адзначыўся тым, што гераічна затрымаў дзеда Мацвея, калі той цягнуў з лесу нейкае паўтрухлявае дрэўца, бо не было чым узімку грубку тапіць... На пытанне, куды падзеўся «галоўнакамандуючы», заўгар-цырульнік выразна патыкаў пальцам у неба. Я не стаў удакладняць...

...Дык што ж тады адбывалася ў Мінску тыдзень таму, у такі спякотны трэці ліпеньскі дзень?

Адны гавораць — свята ў гонар незалежнасці, народнае гулянне... Іншыя — палітычнае шоу, піяр...

Насамрэч усё гэта — ад параду да карнавальных скокаў, ад шаманскага хістання пад рытм гімна, што прарос з савецкага ідэалагічнага дзядоўніка, да чырванасцяжнага рэквізіту над рыштаваннямі недабудаванага «рэйхстага» — нагадвала канцэрт самадзейнасці, які не мае аніякіх адносін да рэальнай гісторыі народа, горада і краіны...

Ці саманадзейнасці?

Гісторыя не дарue ні самадзейнасці, ні, тым больш, саманадзейнасці, якім бы надзьмутым патрыятызмам ні надзімаліся акторы, што апынаюцца, у большасці, выпадкова на яе рыштавання. Якімі б агромністымі ні падаваліся гэтыя рыштаванні ды тысячагаловым — натоўп.

А 3 ліпеня назаўжды застанецца ў гісторыі горада. Нават калі сціхне плач і будуць чутны толькі памяць і цішыня...

*kamerton_41@mail.ru*

# Найлепшыя беларускамоўныя рэкламы

На конкурс беларускамоўнай рэкламы ADNAK трапіла **трыста працаў**.

Гэта болей, чым летась — тады было 270. Трэба ўдакладніць, што на трэці фэст змаглі трапіць толькі працы, выкананыя за апошні год, раней журы ацэньвала беларускамоўную рэкламу за некалькі гадоў.

«Галоўная праблема для беларускіх рэкламшчыкаў — няўменне прэзентаваць свае працы, — тлумачыць каардынатар праекта «Будзьма» Ніна Шыдлоўская. — Так і выйшла, што з 18 намінацый мы маем усяго чатыры першыя месцы і 2 гран-пры».

Найлепшымі рэкламамі за год аказаліся інтэрактыўны праект кампаніі «Аліварыя» «Дружа, кім ты быў у мінулым жыцці?» і серыя постараў, саколак і бордаў да тура «Грай» гурту «Ляпіс Трубяцкой», створаная Артурам Вакаравым са студыі «Адліга».

Асобна трэба ўзгадаць і пра анты-прэмію «Сувораўская каша» — яе сёлета атрымаў маладзечанскі рэстаран «Імператрыца», які падчас «Дажынак» заклікаў акунуцца ў атмасферу раскошы «кацярынінскай эпохі», бо імператрыца «заўжды марыла захапіць Беларусь».

**Юрась Ускоў**




**«Торба$ы». Аўтар: студыя «Адліга», Andrea Chimbor, Артур Вакараў.**




**Постар для тура «Грай». Гран-пры. Аўтар: студыя «Адліга».**




**Серыя плакатаў дэпазіту «Шкварка» ад «Трастбанка». Агенцтва Salmon DDB. Намінацыя: «Друкаваная рэклама». 3 месца.**




**«Першае слова». Конкурс нерэалізаваных праектаў. 2 месца. Аўтар: McCann Erickson Belarus.**




**Вокладка альбома Akute «Кроў бы вада». Аўтар: студыя «Адліга» — намінацыя Дызайн & Art Direction. 2 месца.**




**«ПашпART». Аўтар: студыя «Адліга», Артур Вакараў. Намінацыя: беларускаарыентаваны рэкламны і камунікацыйны праект. 3 месца.**




**«Беларускія правілы». Аўтар: Сяргей Хамічук. Конкурс рэкламнага постару. 2 месца.**

# Затрыманы намеснік мэра Мінска?

Яшчэ 2 ліпеня Ігар Васільеў адкрываў дарожную развязку ў Мінску, а 9-га яго **ўжо няма на працы**.

У Следчым камітэце адмаўляюць наяўнасць крымінальнай справы на чыноўніка, а ў КДБ не каментуюць. У кабінеце Васільева тэлефон не адказвае, а ў Мінгарвыканкаме заявілі, што ён знаходзіцца ў адпачынку. Паводле інфармацыі, распаўсюджанай у інтэрнэце, намесніка Мікалая Ладуцькі нібыта затрымалі 6 ліпеня на працоўным месцы.

На сайце Мінгарвыканкама Ігар Васільеў па-ранейшаму значыцца ў намесніках сталічнага мэра. Ён кіруе дзейнасцю жыллёвай і камунальнай гаспадарак, дарожнага будаўніцтва, гаражамі, аўтастаянкамі, паркоўкамі і яшчэ шэрагам сфераў.

На гэтую пасаду яго прызначыў Аляксандр Лукашэнка 30 верасня 2010. Дагэтуль Васільеў працаваў дырэктарам Мінскага камбіната сілікатных вырабаў. Падчас дырэктарства выбіраўся ў Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў 26-га склікання (выбарчая акруга №22). Разам з ім па гэтай акрузе балатаваліся прадстаўнік Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Максім Пракапенка і член Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Ястраб.

Сёлета ў Мінску ўжо затрымлівалі чыноўнікаў. Першага намесніка кіраўніка адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска абвінавачваюць у атрыманні хабару ад прадпрымальнікаў. Агульная сума хабару перавысіла 90 мільёнаў рублёў. Матэрыялы па яго крымінальнай справе перададзены ў пракуратуру для накіравання ў суд. У канцы мая ў сталіцы быў затрыманы былы мэр Полацка. Яго абвінавацілі ва злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі.

**Сяргей Макарэвіч**



Аляксей Мацюшкоў

Мікалай Ладуцька (справа) і Ігар Васільеў (у цэнтры) на адкрыцці дарожнай развязкі на праспекце Дзяржынскага. Мінск, 2 ліпеня.

**Некалькі фактаў пра Васільева**

- выпускнік Беларускага палітэхнічнага інстытута (1992);
- сума гадавога даходу за 2009 склала 82.024.727 рублёў;
- валодаў 4460 акцыямі Мінскага камбіната сілікатных вырабаў і кватэрай у Мінску;
- летась агучыў праграму «400», згодна з якой будзе вырашана праблема з паркоўкамі ў сталіцы: да 2020 павінны быць створаны 400 тысяч паркавачных месцаў, а палову з іх плануюць увесці да 2015-га;
- пры ім пачалося будаўніцтва дамоў для спецназаўцаў у мікрараёне Уручча, супраць чаго ўзбунтаваліся жыхары навакольных шматпавярховікаў.

## Паводка на Кубані: з гораў на горад спусцілася хваля

**171 чалавекі загінулі** і яшчэ 12 тысяч пацярпелі.

Падчас моцнай залевы на Кубані ў ноч на 7 ліпеня праводзіліся аўтаматычныя злівы вады на Небярджаеўскім вадасховішчы. Аднак сцвярджаць, што гэта стала прычынай паводкі, рана, заявіў РІА «Навіны» старшы памочнік кіраўніка следчага ўпраўлення Следчага камітэта Расіі па Краснадарскім краі Іван Сенгероў.

Раней кіраўнік Расіі Уладзімір Пуцін казаў, што такія злівы «тэхнічна немагчымыя». Сенгероў дадаў, што злівы вады былі парцыйнымі. Сама дамба пашкоджанняў не мае. Проста на далінны горад абрынуліся воды з гор пасля залевы.

Паводле апошніх дадзеных, у выніку паводкі загінулі 171 чалавекі. Паводле дадзеных МНС, пацярпелі больш за 12 тысяч чалавек.

Раней улады Краснадарскага краю абверглі чуткі ў сацыяльных сетках і некаторых СМІ пра тое, што прычынай моцнай паводкі ў Крымскім раёне нібыта стаў рэзкі спуск вады з вадасховішчаў.



Крымск сышоў пад ваду.

Паводка ў ноч на 7 ліпеня затапіла больш за 5 тысяч жылых дамоў у трох гарадах (Геленджык, Крымск, Наварасійск) і шэрагу пасёлкаў Краснадарскага краю. Парушаны сістэмы энерга-, газа- і водазабеспячэння, аўтамабільны і чыгуначны рух.

**МБ**

## Пасварыўся і забіў 16-гадовую сяброўку

Трагедыя здарылася **ў Стаўбцоўскім раёне**.

Вучаніцу 11-га класа Засульскай сярэдняй школы Насцю шукалі два дні — ад 28 чэрвеня. А забіў яе аднавяскоўвец яшчэ 26-га. Увесь гэты час бацькі думалі, што дачка знаходзіцца ў бабулі, як бывала раней.

Труп дзяўчыны быў знойдзены 30 чэрвеня ў двары лецішча ў вёсцы Засулле. Цела знаходзілася ў яме і было прысыпана зямлёй. На наступны дзень ужо затрымалі хлопца, 1994 года нараджэння. Ён даў прызнальныя паказанні, і патлумачыў, што кампанія адзначала ў той вечар дзень нараджэння, выпівалі. Была там і Насця. Калі разыходзіліся, малады чалавек з дзяўчынай затрымаліся. Пачалі сварыцца. У выніку хлопец збіў сяброўку і задушыў. А цела закапаў на адным з прысядзібных участкаў.

Крымінальная справа заведзена паводле п.6 ч.2 арт.139 КК (забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю). Хлопцу пагражае ад 8 гадоў пазбаўлення волі да пажыццёвага зняволення і расстрэлу.

**КМ**

### Сцісла

**Уваліўся ў калодзеж**

Мінчук на лецішчы ў вёсцы Харытоны Валожынскага раёна вырашыў пачысціць калодзеж. Адпампаваўшы спачатку з яго ваду, мужчына па вяроўцы пачаў спускацца на глыбіню 12 метраў. Вяроўка не вытрымала, і ён зваліўся на дно. Дасталі мужчыну выратавальнікі. З закрытым пераломам левага сцягна, адкрытым пераломам касцей правай галёнкі і ў траўматычным шоку мужчыну шпіталізавалі.

**Намахлярыў на 600 млн**

Заведзена крымінальная справа на грамадзяніна Шры-Ланкі за махлярства. 31-гадовы мужчына з'яўляўся дырэктарам замежнага прыватнага ўнітарнага прадпрыемства. У Гомелі ён пазычаў грошы, не збіраючыся іх вяртаць. Ад ліпеня 2011 да сакавіка 2012 шляхам заключэння дамоваў пазыкі на развіццё бізнэсу і складання распісак ён атрымаў 57635 даляраў, 1000 еўра, 83,9 млн рублёў, якія ў выніку прысвоіў.

**КМ**

## Страшныя аварыі з удзелам украінцаў

Кіроўцы двух аўтамабіляў **заснулі за рулём**.

6 ліпеня а 2 гадзіне на 36-м км МКАД мікрааўтобус «Мерсэдэс» з украінскімі нумарамі ўрэзаўся ў МАЗ дарожнай службы. Мікрааўтобус ехаў з Санкт-Пецярбурга ў Львоў. У ім знаходзілася трынаццаць чалавек. Адзін грамадзянін Украіны загінуў.

Як расказаў відавочца, супрацоўнік «Нашай Нівы», аварыя адбылася каля развязкі з вуліцай Прытыцкага. «Мерсэдэс» фактычна заехаў пад МАЗ, прычым тармазнога шляху не было.

«Праязджаў там за 10 хвілін да аварыі, стаяў МАЗ у другой паласе, перад МАЗам метрах у дзесяці стаяў знак аб'езду ў першай паласе. Але знакі, як звычайна, — без адбівальнага пласту — нічога не відаць. Знак на МАЗе з адлегласці таксама невядома куды свецяць: ці то злева аб'езд, ці то справа. Машына, якая ехала са мною адначасова, тасама ледзь не ўляцела пад гэты МАЗ. Кіроўца спачатку стаў абыходзіць МАЗ справа, калі амаль уткнуўся ў яго, заўважыў знакі аб'езду ў першай паласе і палез пад мяне, балазе раз'ехаліся нармальна. Пасля аварыі знакі перанеслі на 20—30 метраў далей ад МАЗа», — напісаў на форуме Onliner.by адзін з наведнікаў.

У тую ж раніцу, на тры гадзіны пазней, паблізу вёскі Яглавічы ў Івацэвіцкім раёне «Дэу» — таксама з украінскімі нумарамі сутыкнуўся з грузавіком «МАН» з паўпрычэпам, які стаяў на ўездзе на запраўку. Паводле папярэдняй версіі, кіроўца легкавіка заснуў за рулём. У выніку ён і пасажыр на пярэднім сядзенні загінулі, двое пасажыраў, якія сядзелі ззаду, трапілі ў рэанімацыю.

**СМ**

**Найбольш аварыйныя ўчасткі на Мінскай кальцавой па выніках 2011-га:**

— адрэзак ад скрыжавання пр-та Партызанскага з МКАД да выезда з мікрараёна Чыжоўка на Новы Двор;

— адрэзак ад скрыжавання вул. Кіжаватава з МКАД да з'езда на Брэсцкую шашу.




Мікрааўтобус фактычна заехаў пад МАЗ.

# Топ найпрыгажэйшых навабудаў Мінска

Пачуўшы азначэнне «сучасная архітэктура Мінска», многія хапаюцца за сэрца.

Сапраўды, будуецца ў сталіцы шмат, але пераважна гэта тыповыя аб'екты. А чым з пабудоваў апошніх 20 гадоў можна сапраўды ганарыцца? «Наша Ніва» вырашыла стварыць рэйтынг найпрыгажэйшых.

Знайсці экспертаў было нялёгка. Архітэктары неахвотна ацэньваюць працы калег. Адмовіліся ўдзельнічаць, скажам, Леанід Левін і Армен Сардараў. Мы ўсё ж атрымалі згоду ад трох майстроў з імёнамі і трох маладых архітэктараў.

У складанні спіса ўдзельнічалі архітэктар Ігар Байцоў, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі і папулярны блогер Darriuss, які піша пра архітэктуру. А з імі — маладыя архітэктары Аляксандра Баярына, Дзмітрый Сакалоў, Фархад Муладжанаў.

Лідар аказаўся бясспрэчным.



Арэна для спорту і канцэртаў заняла першае месца рэйтынгу.

### 1. «Мінск-Арэна» («Белдзяржпраект») — 17 балаў

За «Арэну» прагаласавала абсалютная большасць апытаных.

Ігар Байцоў, вялікі прыхільнік класічнай архітэктуры, ацэньвае «Мінск-Арэну» наступным чынам: «Густоўны праект. У ім няма непажаданых дэталяў, і, галоўнае, «Мінск-Арэна» выглядае завершана. Вельмі стылёвая рэч».

Пры гэтым іншы статусны праект апошняга дзесяцігоддзя, Нацыянальная бібліятэка, у топ не трапіла. Яе назваў толькі адзін з экспертаў.

### 2. Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр імя Яханэса Рау (Рыхард Піршке и «ТМ Вараб'ёва А.А.») — 15 балаў

Самы стары будынак у нашым рэйтынгу адносіцца да пачатку 90-х гадоў. Блогер Darriuss тлумачыць: «Гэты комплекс 1992—1994 гадоў можна лічыць першым узорам сучаснай архітэктуры ў постсавецкім Мінску. Нямецкі архітэктар Рыхард Піршке супольна з беларусам Алегам Вараб'ёвым, абыграваючы супрэматычныя вобразы, змаглі стварыць будынак, які, з аднаго боку, парваў з савецкім мадэрнізмам 1960—80-х, але, з іншага боку, выглядаў вырттаннем да яго каранёў. На жаль, айчынныя архітэктары ў далейшым не сталі развіваць гэты ўдалы досвед», — шкадуе Darriuss.



«Найбольш цікавы мінскі будынак пакуль яшчэ не дабудаваны», — мяркуе Darriuss. Штаб-кватэра Беларускай калійнай кампаніі з'явіцца налета.



Самы цікавы жылы дом быў збудаваны каля 2000-га для дэпутатаў нацыянальнага сходу. Дарэчы, гэта адзін з першых энергаашчадных дамоў у Мінску.

### 3. Жылы дом («Дэпутацкі дом») у завулку Казарменным («ТМ Школьнікава Б.Э.») — 10 балаў

Дом у дварах у луцэ Свіслачы заняў трэцяе месца, бо за яго прагаласавалі ўсе маладыя майстры. Мусіць, яны яго вывучалі?

Што ў ім адметнага, растлумачыла Аляксандра Баярына — дарэчы, яна тая самая архітэктарка, якая прапанавала аздобіць Оперу клумбамі: «Гэта душэўны будынак. Калі яго параўноўваць з жылымі дамамі, якія будуюць цяпер на Прытыцкага, то ў гэтым праекце адчуваецца сапраўдная гармонія, якой бракуе жыллёвай архітэктуры Мінска».

### 4. Рэстаран «Джэймс» («Мінскграмадзянпраект», Івашка А.А.) — 9 балаў

Дзмітрый Сакалоў, сябар праўлення Беларускага саюза архітэктараў, лічыць будынак рэстарана найхарашэйшым на вуліцы Сурганава.

«Сціплымі сродкамі дасягнуты шыкоўны вынік, — расказвае спадар Дзмітрый. — У новабудоўлі на іншым баку той самой вуліцы ўклалі нашмат больш грошай, аднак там бракуе густу. Галоўная праблема ў Мінску цяпер — якраз-такі ў густоўнасці, а па будынку спадара Івашкі відаць, што архітэктар мае свой погляд на тое, якім мусіць быць сучасны будынак, і ён здолеў адстаяць сваю пазіцыю — а гэта важна».

### 5. «Аляксандраў-пасаж» — 8 балаў

Бізнэс-цэнтр «Аляксандраў-пасаж» месціцца на праспекце Незалежнасці, па дыяганалі ад Нацыянальнай бібліятэкі. Хадзілі чуткі, што пачаткова праект абурыў гарвыканкам, бо «Пасаж» аказаўся ледзь не вышэйшым за бібліятэку. Цяпер у гэтым будынку месцяцца салідныя кампаніі — напрыклад, фірмовы салон «Поршэ».

### 6. Бізнэс-цэнтр Silver Tower (Караценка І.Б., Лашакевіч А.С. «Архітэктурная студыя-7») — 7 балаў

«Па-першае, тут адэкватна спалучаюцца выгляд будынка і яго прызначэнне, — мяркуе Сяргей Харэўскі. — Адразу відаць, што гэта офіснае памяшканне. Ён ашчадна аздоблены, трапна выкарыстаныя выяўленчыя сродкі, няма бязглуздай расфарбоўкі. І гэты будынак задае тон усяму раёну: калі едзеш побач, ён стварае ўражанне: упрыгожвае гэты раён, выглядае «па-багатаму» і пры гэтым стылёва».

### 7. Штаб-кватэра Беларускай калійнай кампаніі (2013, арх. Varabyeu partners) — 5 балаў

Гэты зашклёны цуд паўстаў на беразе Свіслачы пад гатэлем «Беларусь». Цяпер завяршаюцца працы па яго аздабленні.

Па меркаванні блогера Darriuss'а менавіта гэты будынак — найцікавейшы з усіх новабудоўляў Мінска. Першапачаткова праект быў яшчэ больш складаным, але нават пасля спрашчэння будынак не згубіў арыгінальнасці.

**Юрась Ускоў**



Адзіны прыватны дамок у рэйтынгу: катэдж у Сцяпянцы.



Кубічны будынак рэстарана «Джэймс».

**Выніковы рэйтынг**

падаецца паводле падліку балаў па пяцібальнай шкале. За 1-е месца налічвалі 5 балаў, за 2-е — 4, за 3-е — 3 і г.д.

**Рэйтынгі экспертаў**

**Ігар Байцоў, архітэктар**

1. «Мінск-Арэна»
2. Фасад «Прыёрбанка» (вул. Харужай)

**Сяргей Харэўскі, мастацтвазнаўца**

1. «Мінск-Арэна»
2. Бізнэс-цэнтр Silver Tower
3. Дом-брама на перасячэнні вул. Пляханава і пр. Ракасоўскага
4. Вежы-блізняты на вул. Прытыцкага, каля ст. метро Каменная Горка
5. Дом Міласэрнасці на вул. Скарыны

**Darriuss, блогер, які піша пра архітэктуру**

1. Штаб-кватэра Беларускай калійнай кампаніі
2. Катэдж у Сцяпянцы
3. «Мінск-Арэна»
4. Бізнэс-цэнтр Silver Tower
5. Міжнародны адукацыйны цэнтр імя Яханэса Рау

**Аляксандра Баярына, архітэктарка**

1. Міжнародны адукацыйны цэнтр імя Яханэса Рау
2. «Аляксандраў-пасаж»
3. «Мінск-Арэна»
4. Жылы дом у зав. Казарменным
5. Бізнэс-цэнтр Silver Tower

**Дзмітрый Сакалоў, архітэктар, сябар праўлення Беларускага саюза архітэктараў**

1. Міжнародны адукацыйны цэнтр імя Яханэса Рау
2. Рэстаран «Джэймс»
3. Жылы дом у зав. Казарменным
4. «Аляксандраў-пасаж»
5. «Мінск-арэна»

**Фархад Муладжанаў, архітэктар**

1. Міжнародны адукацыйны цэнтр імя Яханэса Рау
2. Рэстаран «Джэймс»
3. Жылы дом у зав. Казарменным
4. «Аляксандраў-пасаж»
5. Нацыянальная бібліятэка



Бізнэс-цэнтр Silver Tower перамяніў выгляд «хрушчоўскага» раёна ля станцыі метро «Маладзёжная».

# Вось такія ў нас патрыёты

Спецназ і **патрыятычнае выхаванне** моладзі.

Некалькі дзён таму пачуў па дзяржаўнаму радыё перадачу, якая была прысвечана летняму адпачынку дзяцей. З гонарам паведамлялася аб тым, што са школьнікамі Мінскай вобласці праводзіцца многа розных мерапрыемстваў, якія выхоўваюць у моладзі пачуцце патрыятызму.

Вялікую дапамогу настаўнікам у гэтым выхаваўчым працэсе аказваюць воіны ўнутраных войскаў. Можна толькі здагадвацца, аб якіх «подзвігах» расказваюць школьнікам міліцэйскія спецназаўцы.

Чаму ў нас, калі гаворка ідзе пра выхаванне патрыятызму, то абавязкова ў гэтай справе павінны ўдзельнічаць ветэраны вайны, праводзіцца экскурсіі на «Лінію Сталіна», сустрэчы з воінамі-афганцамі і нават з міліцыянтамі-спецназаўцамі? І чаму гаворка ідзе аб выхаванні пачуцця патрыятызму толькі ў моладзі? Калі выхаваннем гэтых светлых, душэўных пачуццяў будуць займацца спецназаўцы, мне становіцца страшна думаць аб будучыні маёй Бацькаўшчыны.

Мяркую, што сёння дзяржаўныя ідэолагі свядома ўхіляюцца ад патрыятычнага выхавання грамадзян краіны. Інакш яны павінны былі б расказваць нам аб шматвяковай гісторыі нашай Радзімы, аб барацьбе народаў ВКЛ за незалежнасць, за беларускасць. Як можна выхоўваць у людзей пачуцці любові да Радзімы, аддانасці Бацькаўшчыне, калі не ўспамінаць аб перамогах нашых продкаў у Грунвальдскай бітве ці каля Оршы; калі не шанаваць нацыянальныя сімвалы — герб «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг?

**Міхась Спірыдовіч, Івянец**

# І ўсё ж ён таталітарны

Адзін **зык гаспадара** — і ўсё як бы і не было.

Невялікі артыкул «Рэжым — гэта хто?» («НН» за 23 мая 2012) спярша збянтэжыў мяне, а потым абурыў. Сп.Багдан адмаўляе беларускаму рэжыму ў тытуле «таталітарны» на той падставе, што гэта не цвёрдакаменна аднародны рэжым і не трэба яго, маўляў, дэманізаваць.

Я пагаджуся з аўтарам, што далёка не ўсё, зробленае ў падлукашэнкаўскай Беларусі, падлягае непрыняццю. У тым ліку і артэфакты культуры.

Але рэжым характарызуе не тое, што не трапіла ў яго кіпцюры, а акурат прадукт яго жыццядзейнасці.

Рэжым бязлітасны да беларусаў, беларускай мовы і беларускай культуры. Якая яшчэ ідэалогія вам патрэбна? Сябрам усё, ворагам — закон? Калі ласка, і гэта ёсць.

Перашкодаю для прызнання нашага рэжыму таталітарным, на думку аўтара, ёсць тое, «што на самым версе ўлады меркаванні разыходзяцца». Ну і што?

Чыё меркаванне самае правільнае?

Міністр Маскевіч заікнуўся пра выкладанне беларускай гісторыі і геаграфіі па-беларуску. Што, гэта раскалола рэжым? Адзін зык гаспадара — і ўсё як бы і не было.

Міністр Латушка гаворыць па-беларуску дзе хоча, і нічога яму за гэта няма. Ці ж гэта прыкмета «ліберальнасці» рэжыму? Сп. Латушка — хутчэй белая варона, але зусім не франдзёр.

Аўтар заклікае не дэманізаваць міліцыю. Так, у міліцыі багата разумных людзей, якія разумеюць, з чым маюць справу. Але давайце прачытаем аргумент аўтара: «Нават беларуская міліцыя ловіць не толькі актывістаў апазіцыі, але і злачынцаў». Вынікае, што лоўля злачынцаў — пабочная дзейнасць міліцыі, а асноўная — палітычнае паляванне. Вось некалькі дзён таму ў Светлагорску міліцыя разагнала мірную сустрэчу жыхароў і журналістаў, што збіраліся абмеркаваць праблему будоўлі кітайцамі новай хімічнай вытворчасці.

Па чый бок міліцыя?

Цяпер пра плямы таталітарызму ў Беларусі. (Без расшыфроўкі.)

1. Несвабодныя выбары.
2. Марыянеткавы псеўдапарламент.
3. Падпарадкаванасць суддзяў.
4. Адсутнасць вольнага друку, тэлебачання, радыё.
5. Адсутнасць вольных прафсаюзаў і здушэнне спроб стварэння незалежных.
6. Адсутнасць свабоды сходаў і шэсцяў. (Болей за трое не збірацца!)
7. Рэальнае здушэнне беларускай мовы, культуры.
8. Псеўдарэферэндумы.
9. Абмежаванні на прафесійную і творчую дзейнасць.
10. Адсутнасць свабоды палітычнай дзейнасці.

**Мікалай Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

## Заўзець ці заўзятаваць?

Чытаючы гутарку з Паўлам Баранавым (№23, 2012), я спатыкнулася на слове «заўзеецe». Потым у канцы яно яшчэ раз паўтараецца: «заўзець». Што гэта за слова такое інваліднае, скажыце, калі ласка? Я зразумела, што ўтворана яно ад слова «заўзятар».

Але калі ад «заўзятар» утвараць дзеяслоў, то атрымліваецца «заўзятаваць». Хіба не так?

Таму выглядае так: я заўзятую, ты заўзятуеш, ён заўзятуе, мы заўзятуем, вы заўзятуеце (а не «заўзеецe», як у артыкуле), яны заўзятуюць, заўзятуйма за нашых!» і г.д.

Мне зразумела, як утварылі «заўзець». Гэта калька з рускага «болеть» — тая ж колькасць складоў і той жа канчатак «ець». Але навошта нам калькі? Тым болей, што па-беларуску гэта проста няправільна.

**Таццяна Шаклач, Мінск**

**Ад рэдакцыі:** Філолаг Вінцук Вячорка лічыць, што ўжываць можна абодва варыянты.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. **Картуз-Бяроза**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*...А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых,*
*дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых,*
*рабіце дабро ненавіснікам вашым*
*і маліцеся за крыўдзіцеляў вашых*
*і ганіцеляў вашых.*
*Мацвея 5:44.*

Бяроза — горад з вырваным сэрцам.

Старое места Бярозы — знішчаны кляштар манахаў-картузіянаў. Вялізная руіна разбуранай крывавацаглянай сцяной агарожджвае пустку, поўную забытага гвалту і пакутаў на некалькі стагоддзяў углыб.

Гэтак жа, ранай у сэрцы, зеўрае і бліжняе Берасце з крушнямі Крэпасці, і разварочаная Горадня, і стары Менск.

Але Бяроза — выпадак асаблівы. Аддаецца рваным болем, калі чуеш тутэйшых: маўляў, Бяроза Картузская — гэта ад картуза, які павесіў на прыдарожную бярозу ці то Пётр І, ці то Сувораў.

Насамрэч Бяроза як горад пачыналася вакол кляштара Святога Крыжа. У 1648 Казімір Леў Сапега, сын славутага канцлера ВКЛ, выдаткаваў 10 тысячаў чырвоных злотых закону картузіянаў — самаму строгаму з усіх каталіцкіх. Манахі ордэна, заснаванага ў 1084 святым Бруна ў французскай пустэльні Шартроз (Cartusia), давалі зарокі маўчання, фізічнай працы, увесьчаснай малітвы, посту — і поўнай самоты. У мурах кляштара для манахаў прызначаліся адмысловыя эрэмы — глухія келлі з таўшчэзнымі сценамі: нават ежу самотнік атрымліваў праз адтуліну з двума паваротамі, каб ні з кім не сустрэцца.

Велічны барокавы ансамбль з касцёлам і дазволам на кірмашы зрабіўся асновай мястэчка: неўзабаве Бяроза мела два цагельныя заводы, пяць млыноў, вяла гандаль соллю, хлебам і мёдам, віном і півам.

Ці прадчуваў Казімір Леў Сапега, глыбокі вернік, містык, які вучыўся ў чатырох еўрапейскіх універсітэтах і быў пахаваны ў паўднёвай сцяне кляштара ў 1666, што будаваў для сябе магілу, а для беларусаў — Крыж?..

Цхамірнае жыццё скончылася з расійскай акупацыяй. У 1823 царская чыноўнікі спрабавалі засудзіць кляштар за тое, што быццам бы выдаткаваў паўстанцам Касцюшкі мільён злотых. А ў 1831, выставіўшы трох манахаў як удзельнікаў чарговага паўстання, кляштар зачынілі, ягоныя землі сканфіскавалі, а лісты медзі з даху адправілі на будоўлю праваслаўнай царквы ў Гродна.

У кляштарных мурах размясціўся расейскі пяхотны полк. Бярозу Картузскую перайменавалі ў Бярозу Казённую.

Менавіта гэтыя расейскія казармы ля руінаў старога кляштара ў 1930-я ўлады ІІ Рэчы Паспалітай прыстасавалі пад турму для тысячаў беларускіх камуністаў ды незалежнікаў, украінскіх нацыяналістаў і ваеннапалонных.

Пасля гучнага забойства дзеяча «санацыі», міністра ўнутраных справаў Польшчы Перацкага 15 чэрвеня 1934 прэм'ер Леон Казлоўскі пры падтрымцы Юзафа Пілсудскага дамогся распараджэння прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага — і ў краіне «залатой вольнасці» запрацаваў першы канцэнтрацыйны лагер на ўзор сталінскіх ды нацысцкіх. Месца, дзе дазвалялася катаваць людзей без суда і следства.

Пабудка — а 4-й ранку. 6.30 — баланда. Увесь дзень сташ тварам да сцяны пад наглядам. Ноч — кладзешся на падлогу, але кожныя паўгадзіны — пад'ём і праверка. Здзеклівая гімнастыка па 7 гадзінаў запар, да млення.

Усе загады выконваць бегма. Размаўляць забаронена — карцар. Прыбіральня — раз на дзень, агульная для ўсіх, на некалькі секундаў, паспееш толькі зняць ды адзець порткі. Правініўся — чысціць выграбныя ямы голымі рукамі (мыць потым забаронена). Бессэнсоўная егіпецкая праца: капаць і засыпаць ямы, перасоўваць з месца на месца цяжкія камяні кляштарнай мурoўкі... Адмаўляешся?.. Ад пяці да пяцідзесяці ўдараў у твар.

І клічуць цябе цяпер — «быдла».

Галоўная мэта — прынізіць дашчэнту, давесці да скрайняга знемажэння і зламаць. Людзі пaміралі, выходзілі з Бярозы калекамі ды вар'ятамі. Расказваць пра ўмовы ўтрымання было забаронена пад страхам вяртання ў «кляштар».

Праз пекла Картуз-Бярозы прайшлі тысячы беларусаў, падазраваных у супрацы з КПЗБ і БХД, у тым ліку адзін з лідараў хадэкаў, праваслаўны багаслоў і сенатар польскага Сейма Вячаслаў Багдановіч, рэдактар часопіса «Шлях моладзі» і аўтар кнігі «Беларусь учора і сёння» Язэп Найдзюк, а таксама правадыры ўкраінскага нацыянальнага руху: атаман Украінскай Паўстанцкай Арміі Тарас Баравец і камандуючы УПА Раман Шухевіч.

Што ж зрабіла савецкая ўлада на месцы польскага канцлагера, у якім нішчылі камуністаў?.. Зноў казармы, ды яшчэ са свінарнікам. У сутарэннях, дзе былі пахаваныя Сапегі, гніла бульба. І — чаканная фраза краязнаўца: «Толькі ўлетку 1989 з кляштара былі выведзены свінні Мінабароны СССР».

Бяроза — гэта беларускі пароль з Нагорнай казані, Евангелля паводле Мацвея, 5:44: «Любіце ворагаў вашых...»

Бо як інакш жыць побач з суседзямі, якія разбуралі твае храмы, вешалі найлепшых людзей твайго роду, катавалі тваіх святароў і паэтаў, прымушаючы капаць ды засыпаць ірвы, крычаць ад удараў палкамі ды ботамі, поўзаць на каленях па бясконцай, усыпанай бітай цэглай і шклом крывавай дарожцы?..

Гэтак жа ненавідзець? Высочваць час, каб урэшце адпомсціць? Выхоўваць дзяцей са смакам крыві на вуснах?..

Але як можна забыцца, калі твае бліжнія дзеля абароны сваёй свабоды і годнасці топчуць ды забіваюць цябе?

Не, прабачэнне — гэта не забыццё. Прабачаеш — гэта калі бярэш увесь боль на сябе і аддаеш яго Богу. Калі надсілу, як цяжка б гэта ні было, расхінаеш уласнае сцятае сэрца для аднаўлення адносінаў, да вызвалення ад пекла ўсярэдзіне. «Хіба я не знішчаю ворагаў, калі ператвараю іх у сяброў?..» — спытаўся калісьці адзін мудры ўладар.

«Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром», — паўтарае апостал тым, хто не зразумеў пра ворагаў з першага разу.

Мы нават не ўяўляем, як гэта...

Любіць, днямі да атупення і страты прытомнасці стоячы перад каменнай сцяной. Любіць, калі цябе лупяць па твары, бо дапамог падняцца таварышу. Любіць, калі рукі, запэцканыя ў кале, трасуцца і рассыпаюць крохі лагернай пайкі хлеба. Любіць, калі, ашалелы, ледзь перастаўляеш змачаленыя да косці кульцікалені па нясцерпных зубах бітага шкла...

Любіць палякаў, расейцаў, немцаў... і саміх сябе — забыўлівых, абыякавых, запалоханых беларусаў.

Калі мы не хочам жыць на гэтай зямлі са скрываўленай вырванай пусткай замест сэрца — кожнаму з нас трэба вучыцца любіць. Любіць настолькі моцна, як Той, Хто прыняў на Сябе ўвесь наш грэх і ўвесь наш боль на Крыжы.

Каб «Бяроза» аддавалася ў грудзях не пагрознай злосцю, а гулкім кляштарным рэхам: «Бог ёсць любоў».

*Куплін*

**Сапега будаваў для сябе магілу, а для беларусаў — Крыж** »

# Для тых, хто ўмее бачыць

Як шэдэўры драўлянага дойлідства губляюць беларускую душу. Піша **Тамара Габрусь**.



Юр’еўская царква ў Валавелі Драгічынскага раёна была ўзорам беларускага барока.



Нядаўна ў храма забралі статус помніка і замянілі «банькі» на вежах псеўдарускімі цыбулінамі.

Нашы продкі нараджаліся і жылі ў трывалым, непасрэдным, можна сказаць, сакральным кантакце з дрэвам. Немаўлятак клалі ў драўляныя начоўкі, з дрэва рабілі лавы, посуд, прасніцы і ткацкі станок, у апошні шлях нябожчыка адпраўлялі ў драўлянай дамавіне. З дрэва будавалі для сябе хату, а затым і Дом Божы — храм, якім асвячалі ўсё паселішча. І ў храме чалавек маліўся на дрэва: на дошках малявалі абразы, з дрэва рабілі іканастасы, шаты, скульптуры святых.

Шэдэўры народнага драўлянага дойлідства — сведчанне духоўнага багацця і майстэрства нашых продкаў, якое, на жаль, сыходзіць у нябыт. Ці здольная сучасная рэстаўрацыя захаваць, а не знішчыць гэта святое трымценне сапраўднай творчасці, гэты «Боскі абраз» артэфактаў?

Згодна з «Венецыянскай хартыяй», усе часткі будынкаў, канструкцыі, дэталі, вузлы і нават спосабы апрацоўкі паверхняў павінны адпавядаць часу ўзвядзення. Дасягнуць гэтага можна, калі строга трымацца гістарычнай тэхналогіі будаўніцтва, якая сама па сабе з’яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю, з выкарыстаннем аўтэнтычных інструментаў і прыёмаў апрацоўкі матэрыялаў. Сучасныя тэхналогіі рэстаўрацыі могуць быць ужытыя толькі ў выпадку, калі гістарычныя метады будаўніцтва страчаныя.

## У Расеі — комплексныя, у ВКЛ — базілікальныя

Найбольш старажытныя помнікі драўлянага храмабудаўніцтва Беларусі XVII—XVIII стст. маюць выключную гісторыка-культурную каштоўнасць. Яны — носьбіты нацыянальнага эстэтычнага адчування прыгожага і духоўнага. Пасля дзесяцігоддзяў грэбавання гэтымі паняццямі, у наш час востра стала пытанне захавання і аднаўлення беларускіх архітэктурна-мастацкіх традыцый. Аднак праблемы рэстаўрацыі (дый проста рамонту) драўляных храмаў часта вырашаюцца валюнтарысцкім шляхам. Прагматычны падыход да рэстаўрацыі, беспардоннае выкарыстанне новых будаўнічых матэрыялаў разбурае гармонію і вобраз старажытных храмаў.

Беларуская традыцыя будаўніцтва драўляных цэркваў рознілася ад традыцыі, напрыклад, Расейскай Поўначы. Для апошняй характэрныя збудаванні са зрубамі рознай вышыні і асобным пакрыццём кожнага зруба, найчасцей у выглядзе высокага шатра. У Вялікім Княстве Літоўскім часцей ставілі храмы базілікальнага кшталту — з падоўжанай кампаноўкай частак-зрубаў аднолькавай вышыні пад агульным высокім кроквавым дахам. Мастацкую выразнасць храму надавалі вежы і купалы, запазычаныя ў барочнага муравага дойлідства, што панавала ў той час у заходнім хрысціянскім свеце. Такі «перанос» барока ў традыцыйнае драўлянае дойлідства надавала храмам этнічны каларыт, утварала нацыянальную беларускую разнавіднасць сусветнага архітэктурна-мастацкага стылю.



**Тамара Габрусь**

доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфі і фальклору НАН Беларусі.

**Венецыянская хартыя**

Да помнікаў архітэктуры і гісторыка-культурных каштоўнасцяў сучасныя метады будаўніцтва і рамонту непрымальныя. Рэстаўрацыя павінна праводзіцца ў адпаведнасці з «Міжнароднай хартыяй па кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў і выдатных мясцін» («Венецыянскай хартыяй»), прынятай у 1964. Мэтай рэстаўрацыі з’яўляецца «захаванне помніка як твора мастацтва і як сведкі гісторыі». Складанасць навукова-рэстаўрацыйнай справы — у неабходнасці параўнання шырокага кола гістарычных крыніц, вывучэння арганізма помніка, удзелу ў працэсе кваліфікаваных майстроў, здольных ужываць метады і магчымасці дойлідаў мінулага.

## Шатры і «банькі»

На галоўным фасадзе драўлянага беларускага храма звычайна ставілі дзве вежы, накшталт мураваных барочных базілік. Найбольш пашыранымі былі вежы квадратнай формы (чацверыкі), накрытыя невысокімі (параўнальна з расейскімі) шатрамі, якія зваліся «каўпакамі». Іх вышыня была звычайна роўнай палове дыяганалі асновы, што рабіла іх візуальна статычнымі, падобнымі да егіпецкіх пірамід. Характэрна, што само беларускае слова «вежа» паходзіць ад цюркскага «шацёр». Адпаведнай была і традыцыйная форма пакрыцця вежаў замкаў і храмаў. Яна была парушана, напрыклад, пры рэстаўрацыі Мірскага замка, дзе на вежах зрабілі высокія шатры «з заломам», якія змянілі звыклае аблічча помніка.

Больш позняй формай завяршэння вежаў храмаў эпохі барока, пачынаючы з сярэдзіны XVIII ст., сталі фігурныя грушападобныя гранёныя купалы, якія зваліся «бані» ці «банькі», у залежнасці ад памераў. Назва паходзіць ад лацінскага слова baneum (так зваўся пуката-ўвагнуты посуд, якім карысталіся для абмывання ў тэрмах і купальнях, пазней — у баптыстэрыях пры абрадзе хрышчэння). «Банькі» рабілі шмат’яруснымі, на васьмігранных і шасціграных шыйках, што стварала кантрасныя светлаценевыя эфекты.

## Паставілі цыбуліны на круглых барабанах

Самым па-мастацку выразным узорам архітэктурных форм позняга барока ў беларускім драўляным дойлідстве да нядаўняга часу была Юр’еўская царква ў вёсцы Валавель Драгічынскага раёна, пабудаваная ў 1766 як уніяцкая. З 1839 яна стала праваслаўнай. Традыцыйны двухзрубавы храм упрыгожвалі дзве вежы з вытанчанымі фігурнымі «банькамі», што надавалі ёй надзвычайную прыгажосць і ўзнёсласць. Менавіта такой яна зафіксавана навуковымі экспедыцыямі пры падрыхтоўцы «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», што надавала ёй статус помніка архітэктуры, які падлягае дзяржаўнай ахове. Новы час і новае заканадаўства пазбавілі храм статуса помніка, што дазволіла ў 2010 правесці варварскі рамонт. Замест «банек» узвялі псеўдарускія цыбуліны на круглых барабанах, напэўна, каб надаць «істінно православный» выгляд, парушыўшы «ўстаноўленую гармонію» (паводле К.-Г.Юнга) паміж духоўным і матэрыяльным светам беларусаў.

Падобным чынам у канцы XX ст. быў зменены вялікі барочны купал-«баня», які вянчаў сяродкрыжжа былой уніяцкай царквы св. Параскевы Пятніцы ў вёсцы Чарнаўчыцы Брэсцкага раёна, пабудаванай у 1733. Гэта адна з нешматлікіх ацалелых да нашага часу чатырохзрубавых крыжовых цэркваў, якія раней былі распаўсюджаны на беларускіх землях. Замест купала гора-рэстаўратары зрабілі вастраверхі шацёр, які памерам не адпавядае ўнікальнай архітэктуры храма.

## Сакрэты шалёўкі

Акрамя адвольнага скажэння вярхоў, пры рамонтах прынцыпова мяняюць дэкаратыўнае і каляровае вырашэнне. Традыцыйныя драўляныя храмы Беларусі будаваліся спосабам агульным для ўсіх славянаў — гарызантальнымі вянкамі. Аднак адрозна ад расейскага дойлідства, дзе звычайна выкарыстоўваліся круглыя бярвенні без ашалёўкі, у ВКЛ ужывалася дрэва «часанае» ці «брусаванае». Затым сцены абшываліся вертыкальна пастаўленымі хваёвымі дошкамі, стыкі паміж якімі закрываліся тонкімі планкамі-нашчыльнікамі. У якасці сціплага дэкору выступала шалёўка «ў елачку» на шчытах франтонаў і дзвярах. Рознае ў розны час дня асвятленне мяняла глыбіню рэльефа, рабіла паверхню сцяны пластычнай, што дакладна адпавядала маляўнічай канцэпцыі стылю барока. Пры гэтым захоўвалася натуральная фактура дрэва. У наш час усе праваслаўныя храмы афарбаваныя ў ярка-блакітны колер, каталіцкія — у зялёны ці карычневы, чым адразу падкрэсліваецца іх канфесійная арыентацыя пры дэклараванай на словах талерантнасці. Гарызантальная шалёўка ў беларускіх храмах ужывалася вельмі рэдка, адрозна ад украінскіх. У Маскоўскую ж Русь пілаваныя дошкі і тартакі трапілі толькі ў другой палове XVII ст. з беларускімі перасяленцамі.

## Рамонт як знішчэнне

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі айчыннае драўлянае храмабудаўніцтва адчула ўздзеянне эстэтыкі класіцызму і так званых гістарычных стыляў. Асабліва моцным было ўздзеянне псеўдарускага стылю, які навязваўся на дзяржаўным узроўні, каб разбураць мясцовыя цяслярскія традыцыі. Базілікальную канцэпцыю храмаў замяніла комплексная, характэрная для Расеі: з’явіліся дадатковыя зрубы (трапезныя), прыбудаваныя званіцы з вастраверхімі шатрамі. Вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі замяніла гарызантальная... Той, хто здольны бачыць, па кампазіцыі храмаў і дэкору можа прачытаць іх гісторыю і гісторыю народа.

Сёння стаўленне дзяржавы да рэлігіі цяпер змянілася. Але з боку іерархічных колаў як праваслаўя, так і каталіцтва пануе валюнтарызм і тэндэнцыйнасць у стаўленні да айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны. Пануе непавага і неразуменне эстэтычных каштоўнасцей сапраўднага народнага дойлідства. Адраджэнне рэлігійнага жыцця суправаджаецца не адраджэннем старажытных святынь, а іх маральным альбо фізічным знішчэннем, насаджэннем чужой эстэтыкі. Так, напрыклад, унікальны драўляны касцёл-санктуарый у Тракелях Воранаўскага раёна пасля рамонту страціў сваю аўтэнтычную вертыкальную ашалёўку і гонтавы дах, а разам з імі — мастацкую выразнасць і сапраўднасць. Падобная «рэстаўрацыя» праведзеная і з праваслаўнай Траецкай царквой XVIII ст. у вёсцы Княгінін Мядзельскага раёна. Унікальныя драўляныя Крыжаўзвіжанская царква ў вёсцы Гошчава Івацэвіцкага раёна і касцёл у вёсцы Лебедзева Маладзечанскага раёна замененыя на тыпавыя пабудовы з сілікатнай цэглы. Пасля больш чым паўвекавога перапынку ў развіцці сакральнага драўлянага дойлідства вынішчэнне гістарычнай памяці народа «з найлепшымі намерамі» працягваецца.

## ФУТБОЛ

### 19 тур

**13—14 ліпеня** матчы наступнага тура першынства краіны. Сустракаюцца:
БАТЭ (Барысаў) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна),
«Мінск» — «Славія» (Мазыр),
«Нёман» (Гродна) — «Шахцёр» (Салігорск),
«Брэст» — «Нафтан» (Наваполацк).

## ІМПРЭЗЫ

### Наш Грунвальд

**Ад 20 да 22 ліпеня на тэрыторыі Музейнага комплексу «Дудуткі»** пройдзе IV міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі «Наш Грунвальд». Вы можаце ўбачыць рыцарскія турніры, спаборніцтвы лучнікаў, рок- і фолк- канцэрты, навучыцца стральбе з лука і арбалета, наведаць майстар-клас па гістарычным фехтаванні, паўдзельнічаць у шатландскіх гульбішчах…

### Фестываль шаманскай музыкі

**14 ліпеня на хутары «Шаблі» (Валожынскі раён)** пройдзе фестываль шаманскай музыкі, у якім возьмуць удзел музыкі з Расіі, Літвы і Латвіі. Сярод удзельнікаў — расійскі гурт «Оле Лукое», літоўскі музыка Саўлюс Пятрэйкіс, які грае на інструментах з усяго свету: ад індыйскай бансуры да кельцкіх свісткоў. Даведкі: (29)655-55-96

## КАНЦЭРТЫ

### The Apples

**13 ліпеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — rock'n'roll & retro з гуртом The Apples.



## ГІМНАСТЫКА

### Кубак свету

**Ад 13 да 15 ліпеня ў Палацы спорту** пройдзе фінальны этап Кубка свету BelSwissBank па мастацкай гімнастыцы.
**13 ліпеня а 15-й** — кваліфікацыя ў групавым практыкаванні (шматбор'е).
**14 ліпеня аб 11-й** — кваліфікацыя ў індывідуальных практыкаваннях (шматбор'е).
**15 ліпеня аб 11-й** — фіналы.
**15 ліпеня а 19-й у Белдзяржцырку** — шоу зорак сусветнай гімнастыкі і цырка.

### The Road Dogs

**21 ліпеня а 18-й у «Графіці»** — канцэрт The Road Dogs.

## ВЫСТАВЫ

### Я проста ў далёкай вандроўцы

**У Палацы мастацтва (Казлова, 3) да 15 ліпеня** працуе мемарыяльная выстава Вячаслава Дубінкі «Я проста ў далёкай вандроўцы», прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння мастака. Вячаслаў Дубінка адрадзіў амаль забыты ў сучаснай Беларусі жанр выцінанкі. Яго творы ўпрыгожваюць музейныя экспазіцыі ў розных краінах, выдаваліся асобным альбомам, імі ілюстраваліся кнігі.

### Выстава адной карціны

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20) да 16 ліпеня** працуе выстава адной карціны Барыса Казакова: «Краявід XX стагоддзя. Дарогі, па якіх ніхто не ходзіць».

### Гравіроўка на шкле

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 14 ліпеня** працуе выстава шкла Аляксандра Фокіна. У экспазіцыі — каля 20 творчых работ, выкананых у аўтарскай тэхніцы гравіроўкі па шкле. У сваіх працах майстар прадумана выкарыстоўвае форму і колер шкла, часам уводзіць бронзавае абрамленне альбо асобныя бронзавыя дэталі, якія як бы завяршаюць складаную кампазіцыю…

### Ракеш Бані

**Да 28 ліпеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава графікі Ракеша Бані (Індыя). Аўтар прадставіў звыш 20 прац, выкананых у тэхніцы афорта.
У афортах Бані можна ўбачыць чалавечыя фігуры з крыламі стракозаў, мятлушак і анёлаў. Гэтыя вобразы дапамагаюць усвядоміць, што ў гэтым свеце існуе толькі бачная, ілюзорная рэальнасць…

### Анджэй Аліва і Томаш Ціхы

**Да 14 ліпеня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава скульптуры Андржэя Алівы /Ondřej Oliva і жывапісу Томаша Ціхага /Tomas Tichy (Чэхія).

### Валіза

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10) да 22 ліпеня** працуе выстава Ірыны Дзёмінай «Валіза». На выставе прадстаўлены вырабы са скуры — 7 непаўторных валізаў.



### Kriwi

**20 ліпеня а 19-й у «Графіці»** — канцэрт рок-гурта Kriwi.



### Паэтычны слэм на Астравеччыне

**14—15 ліпеня на возеры Кайміна** пройдзе паэтычны слэм.
Удзел у слэме возьмуць Віталь Рыжкоў (на фота), Андрэй Адамовіч, Марыя Пушкіна, Антон Рудак, Глеб Лабадзенка, Яўген Валошын, Цімур Хоміч, Анатоль Івашчанка, Алена Хадановіч, Марына Шода, Усевалад Сцебурака. Вядоўца імпрэзы — Андрэй Хадановіч.
Праезд праз вёску Страча (на шашы Полацк—Вільня) — в. Спонды- воз. Кайміна. Заезд а 10.00 14 ліпеня, пачатак мерапрыемства — а 12.00.
**15 ліпеня** гасцей чакае экскурсійная вандроўка па Астравеччыне: Барані, Міхалішкі, Гервяты, Варняны, Астравец.
Пры сабе трэба мець намёт, харчаванне на 2 дні і добры настрой. Відовішчы, дровы і цікавосткі забяспечаныя арганізатарамі.
Гасцям фэсту трэба перад паездкай аплаціць праз банк дазвол на ўезд у памежную зону. Абавязкова мець пры сабе пашпарт.
Тэлефон для даведак па арганізацыйных пытаннях (029) 551-93-08.

## ТЭАТРЫ

### 12 ліпеня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 13 ліпеня

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 15 ліпеня

**Купалаўскі** — «Офіс»

### 16 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 17 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 18 ліпеня

**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 19 ліпеня

**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

### 20 ліпеня

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

# Басовішча

**13—14 ліпеня ў польскім Гарадку** пройдзе традыцыйны фестываль беларускай рок-музыкі «Басовішча». У праграме запланаваныя выступы наступных гуртоў:

**13 ліпеня:**
18:00 — ILO&friends (Польшча)
19:00 — TerraKod
20:00 — :B:N:
21:00 — выступ пераможцы Before Basowiszcza
21:30 — Raggafaya (Польшча)
23:00 — Sciana
00:30 — Rima.

**14 ліпеня**
18:00 — выступ пераможцаў Адборышча
19: 30 — IQ 48
21:00 — Kalmary
22:00 — Farben Lehre (Польшча)
23:30 — Znich
00:30 — Neuro Dubel.




## КІНО

### Фільм пра мужчынскі стрыптыз

Супер Майк (Magic Mike)
ЗША, 2012, каляровы, 110 хв.
**Рэжысёр:** Стывен Содэрберг
**Ролі выконваюць:** Чэнінг Татум, Алекс Пэціфер, Мэцью МакКонахі, Мэт Бомер, Алівія Ман
**Жанр:** Драма
**Адзнака:** 3 (з 10)

Днём ён кладзе гонту, а ўначы танчыць стрыптыз. Дасведчаны герой Чэнінга Татума вучыць навічка танцам перад жанчынамі, але сам прагне пакінуць эратычны бізнэс. Але не так проста вырвацца з гэтага кола.
Стывен Содэрберг, які пачынаў як майстар аўтарскага кіно, узяўся за рызыкоўную тэму стрыптызу. Акцёр Чэнінг Татум, які сыграў галоўную ролю, фінансаваў стужку — і заснаваў яе на ўласных успамінах. Фільм, насуперак рэкламе, зусім не камедыя, а драма з гламурна-істэрычнымі стрыптызнымі нумарамі. Карціна маскіруецца пад крытыку амерыканскага ладу жыцця, дзе псіхапатычны Мэцью МакКонахі кіруе голым парадам, а экран заліваюць пунсовыя і чырвоныя колеры. Але для сацыяльнай драмы фільм занадтаірваны. Не з'яўляецца стужка і суцэльным рэкламным ролікам Чэнінга Татума. Нудная балбатня, крыкі глядачак і падмарожаны Алекс Пэціфер (у фільме малады шоумэн) — адстойныя дэталі амерыканскай мары. У гэтай мары адна спакуса змяняе іншую. Вісклівыя дзявулі з марамі пра свайго стрыптызёра запрашаюцца.

**Андрэй Расінскі**



# Нябесны турызм

Колькі каштуе палятаць **над Беларуссю?**

Лёгкасць, з якой самалёт са шведскімі лётчыкамі трапіў у неба нашай краіны і раскідаў цацкі, здзіўляе. Скандынавам удалося зрабіць тое, што недаступна для большасці нашых суайчыннікаў — палюбавацца краявідамі Беларусі з вышыні птушынага палёту.

Колькі каштуе атрымаць тыя ж эмоцыі, што і яны? Мы абралі чатыры шляхі — палёты на самалёце, верталёце і паветраным шары, а таксама скачок з парашута.

### Парашут

У Беларусі з часоў росквіту Добраахвотных таварыстваў удзеяння арміі, авіяцыі і флоту (ДТСААФ) захавалася 11 аэраклубаў. Самым папулярным з'яўляецца мінскі, які знаходзіцца ў Баравой. Скачок з вышыні 3 кіламетраў разам з інструктарам каштуе 1,2 мільёна рублёў. Аднак, каб зэканоміць, можна паехаць у рэгіёны. Напрыклад, у Віцебску за такі самы скачок давядзецца заплаціць 950 тысяч рублёў, а ў Сычкове пад Бабруйскам — каля 890 тысяч рублёў.

Што да самастойных скачкоў, то трэба спачатку прайсці пяцігадзінны інструктаж (каштуе каля 100 тысяч рублёў). Сам палёт з вышыні 900 метраў каштуе ад 300 да 650 тысяч у залежнасці ад месца.

Зрэшты, многія мінскія экстрэмалы абіраюць таннейшы варыянт і скачуць з уласнымі парашутамі з дахаў мінскіх высотак. Яны лічаць, што 75-90 метраў — дастатковая вышыня, каб паспець адчуць сябе ў палёце і ў патрэбны момант пацягнуць за колца. Праўда, за такія небяспечныя скачкі можна атрымаць немалы штраф ці нават быць арыштаваным.

### Верталёт

Тытунёвы магнат Павел Тапузідзіс летась адкрыў у Ратамцы на Мінскім моры «Робінсан Клаб». Сярод іншых забавак ён дае магчымасць пакатацца на верталётах. Кошт палёту складае каля $500 за гадзіну. Можна абмежавацца і 15 хвілінамі, заплаціўшы, адпаведна, каля $130. Гэтыя сумы можна падзяліць на трох пасажыраў — больш у верталёт не ўлезе.

Як паведамілі ў службе пракату клуба, маршрут уключае ў сябе палёт над санаторыем «Юнацтва», вяслярным каналам, Заслаўем і іншымі аб'ектамі ў заходнім накірунку ад Мінска.

Максімальная працягласць палёту верталёта Robinson R44 складае 3 гадзіны, а крэйсерская хуткасць дасягае 240 км/г.

### Самалёт

Раней у Ратамцы на месцы клуба Тапузідзіса знаходзілася «Авіяранча». Пасля некалькіх трагічных выпадкаў яно закрылася. З нядаўняга часу «Авіяранча» працуе каля аграсядзібы «Зарачаны» ў Пухавіцкім раёне. «Разынка» адпачынку — паветраны маршрут па ваколіцах — называецца «Пары над Зарачанамі».



**Навучыцца кіраваць паветраным шарам можна і самому.**



**Авіяранча ў Зарачанах працуе і ўзімку.**

### Паветраны шар

«Падымі мяне па-над зямлёю, падымі мяне ў светлы абшар», спяваў у канцы 1990-ых N.R.M. Цяпер сустрэць у небе світанак ці заход сонца стала нашмат прасцей. З паветранымі шарамі ў Беларусі працуе некалькі кампаній, сярод іх названае вышэй «Авіяранча» і кампанія «Аэратур Балунс».

Самая недарагая прапанова ад апошняй — так званы «прывязны палёт». Паветраны шар уздымаецца на вышыню да 50 метраў і вісіць уверсе на працягу 10 хвілін. Гэта каштуе $30 з кожнага пасажыра.

За тое, каб палятаць на вышыні да 1 кіламетра, давядзецца заплаціць каля $250 з чалавека за гадзіну. «Згодна з традыцыяй, пасля першага палёту вас чакае прысваенне графскага тытула і выдача сертыфіката», — адзначаюць у «Аэратуры». На вышыні можна зладзіць і вяселле. Яно будзе каштаваць прыблізна $500 з чалавека.



**Верталёт Robinson R44.**

Што да тэрыторыі палёту, то шар можа ўзляцець з любой пляцоўкі плошчай 50х50 метраў пры наяўнасці дазволу. Сярод самых папулярных месцаў запуску — «Робінсан Клаб», «Лінія Сталіна», «Дудуткі». З канца ліпеня паветраны шар пачне ўзлятаць і з Камсамольскага возера ў Мінску.

**Ягор Марціновіч**

# У Гродне ідзе набор у беларускамоўны садок і дзве школы

**Дзіцячы садок №45**

Адрас: вул. Сухамбаева, 5.

Заявы прымаюцца ў Ленінскім аддзеле адукацыі па адрасе: вул. Савецкая, 14, каб. 253, тэлефон — 74-07-85.

В.а. начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама: 72-04-83 (Алена Пахомава).

Прадстаўнік бацькоўскага камітэта: 8(029)889-18-53, 8(029)337-85-74, mail: nas_hovea@mail.ru (Наталля Кісель).

**СШ №32 (Ленінскі раён)**

Адрас: Ліможа, 11.

41-31-92 (Баярчык Гелена Вацла-ваўна).

Завуч пачатковай школы №32: 8 (029) 787-43-54 (Валянціна Багдановіч).

E-mail: Sh32@mail.grodno.by

Ленінскі аддзел адукацыі: 72-10-65 (Аксана Сяргееўна).

Прадстаўнік бацькоўскага камітэта беларускіх класаў: 70-62-89, пасля 18.00 (Аксана Астроўская).

**СШ №34 (Кастрычніцкі раён)**

Завуч пачатковай школы №34: 56-25-46 (Алена Вітко).

E-mail: Sh34oktroo@mail.grodno.by

Кастрычніцкі аддзел адукацыі: 52-05-66 (Аляксандра Уладзіміраўна).

Гродзенская абласная арганізацыя ТБМ: 8(029)943-58-09 (Аляксандр Крой), 8 (029)285-93-07 (Іван Буднік).

## Кошт пасведчанняў кіроўцы павялічваецца ў чатыры разы

Цяпер — **200 тысяч рублёў.**

Ад 9 жніўня ўступае ў сілу загад №197 (ад 19 красавіка 2012). Для кіроўцаў гэта азначае адно: кошт абмену і выдачы правоў кіроўцы павялічваецца ад 0,5 да 2 базавых велічынь. Пакуль гэта абыходзіцца ў 50 тысяч рублёў, а будзе каштаваць 200 тысяч. Плюс камп'ютарныя паслугі (у Мінскай ДАІ — 12 тыс. рублёў).

Нягледзячы на чаканае падаражэнне, ажыятажу ў міжраённых экзаменацыйных аддзелах няма. Інспектары кажуць: усе, хто хацеў абмяняць правы, ужо гэта зрабілі.

**Auto.onliner.by**

## Электрычкі і цягнікі падаражэлі на 20%

Але ўсё адно **значна таннейшыя** за аўтобусы.

Міністэрства эканомікі дазволіла чыгунцы павялічыць тарыфы на перавозку пасажыраў. Папярэдні раз кошт праезду ў электрычках змяняўся за месяц да леташняй дэвальвацыі, а ў цягніках — яшчэ ў канцы 2010.

Стрымліванне тарыфаў прывяло да таго, што акупляльнасць пасажырскіх перавозак апусцілася ніжэй за 10%. Беларускай чыгунцы заставалася кампенсаваць выдаткі за кошт дарагіх грузавых перавозак.

Цяпер дыспрапорцыі зменшацца, але нязначна. Электрычкі і цягнікі падаражэлі на 20%. Напрыклад, калі раней кошт праезду ад Мінска да Брэста ў плацкартным вагоне складаў 20700 рублёў, то цяпер ён падаражае амаль да 25 тысяч рублёў. Для параўнання, на аўтобусе білет на такі ж маршрут бу-дзе каштаваць каля 70—75 тысяч рублёў. У выніку «Мінсктранс» не можа стварыць канкурэнцыю ў кірунках, у якіх праклад-зеныя чыгуначныя шляхі.

Адначасова падаражэлі і цягнікі павышанай камфортнасці. Паездкі з Мінска ў Заслаўе і Рудзенск будуць каштаваць 3000 і 4000 рублёў адпаведна (было 2 і 3 тысячы рублёў).

**ЯМ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Мінску прайшлі святочныя мерапрыемствы з нагоды 130-годдзя Янкі Купалы, адбыліся купалаўскія чытанні, а прадстаўнікі Міністэрства культуры і афіцыйнага Саюза пісьменнікаў прынеслі кветкі. Рота ганаровай варты ўсклала вянок ад кіраўніка дзяржавы. На расейскай мове. На фота: міністр культуры Павел Латушка.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Сквар. Беларусам спякотныя дні даюцца нялёгка.**




СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Над Заслаўем лятала рэклама хрэну.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Купалле ў Стоўбцах.**

## Анекдоты

* * *

Падчас канцэрта доктара Сайкова прагучыць хіт «Закадзірую» і іншыя лячэбныя песні са схаваным кодам, якія дапамогуць пазбыцца шкодных звычак.

* * *

Парад на праспекце Пераможцаў быў спынены пасля надзвычайнага здарэння: клоўны, падчас выступлення з літарамі перад трыбунай, выпадкова склалі слова «ШОС».

* * *

ПВА — плюшава-ватная абарона.

* * *

Супраць медзведзіроўшчыкаў павінен быў змагацца атрад баявых клоўнаў. Але яны былі задзейнічаны на парадзе — літары складалі без фаташопа.

* * *

Вы ўсё яшчэ не верыце ў мядзведзікаў? Тады мы ляцім да вас!

* * *

Мой муж — самы рамантычны ў свеце. Ён заплакаў, калі пабачыў, што я надрапала сэрцайкі на капоце яго машыны.

* * *

Беларускі самалёт скінуў над Стакгольмам некалькі пакетаў з сацыяльным малаком.

* * *

Звычайна ў крызіс узгадваюцца лепшыя часы. І толькі беларусы памятаюць, што бывала яшчэ горш...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Чорная Весь. Віленская губерня.** Тутака пайшлі два дзяцюкі купацца ў сажалку каля былўшай цагельні, ды абодва дрэнна плавалі. Сажалка надта вялікая і глыбокая; адзін з іх замарыўся плаваючы і пачаў тануць і крычаць: «Братка, ратуй! Братка, ратуй!» Але таварыш не ўмеў плаваць і не вырataваў і дзяцюк утапіўся.

**«НН». №26. 1912.**

**У Купалаўскім тэатры трыумфальна прайшлі легендарныя «Тутэйшыя».** Спектакль, які заўжды збіраў аншлагі, рэкламы не патрабаваў, асабліва пасля зняцця з рэпертуару на падставе «састарэласці дэкарацый». У фінале гледачы наладжвалі сувералацыю з тысячагалосным «Жыве Беларусь!» — акторам, нябачна прысутнаму аўтару, бел-чырвона-беламу сцягу над сцэнай, самім сабе. Цешыліся, што могуць вось так сабрацца ў цэнтры Мінска, ля самай прэзідэнцыі, і ўзняць гіганцкі нацыянальны штандар.

**«НН». №26. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 11.07.2012.
Замова № 2815.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 12026